ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№7 (2513)

13 лютага 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ







**Імя прэзідэнта амерыканскай дабрачыннай арганізацыі "Сіціхоўп. Інтэрнешнл" Пола Мора добра вядомае ў Беларусі. Ужо шмат гадоў дапамагае ён абяздоленым і хворым. Вось і нядаўна Міжнародная грамадская дабрачынная арганізацыя "Надзея-Экспрэс" правяла вялікую дабрачынную акцыю. У гарадскія і раённыя бальніцы Магілёўскай і Гомельскай абласцей адпраўлены медыкаменты і медыцынскія прыналежнасці. У ходзе акцыі падарункі атрымалі больш за 4,5 тысячы сямей, дзе выхоўваюцца хворыя дзеці, у чатырнаццаці раёнах Беларусі.**

**НА ЗДЫМКАХ: сокі, вітаміны, цацкі атрымала Наталля БАРАГІНА для сына Івана; беларускія сувеніры былі ўручаны Полу МОРУ; канцэрт у ходзе дабрачыннай акцыі ў Чачэрску.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**

*У. БОРЗАБАГАТЫ — АДНАДУМЦА КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА*

# АД НЯНАВІСЦІ ДА СПАГАДЫ

Высокапастаўлены расійскі саноўнік, любімец Аляксандра II граф В. Бутаў за мяжой беспаспяхова лячыўся ў многіх свяціл. І толькі У. Борзабагаты змог распазнаць яго хваробу. У выніку дасканалага аналізу паставіў правільны дыягназ: псіхічнае захворванне маніяй вялікасці. Француз-псіхіятр, які раней лячыў іншаземца, згадзіўся з гэтым дыягназам і прызнаў сваю памылку. Уладзіслаў Канстанцінавіч эфектыўна правёў і лячэнне.

Уладзіслаў Борзабагаты нарадзіўся 23 красавіка 1831 года ў сям'і Канстанціна і Юліі Борзабагатых у маёнтку Рутка Навагрудскага павета Гродзенскай губерні. Уладзіслаў з дзяцінства вызначаўся абвостранай спагадлівасцю. Ён вельмі хваравіта ўспрымаў крыўды і знявагі. Любая несправядлівасць выклікала ў яго абурэнне, жаданне абараніць пакрыўджанага.

Калі хлопчыку споўнілася сем гадоў, за яго абучэнне ўзялася маці. Дзякуючы намаганням Юліі Іванаўны, сын добра падрыхтаваўся і ў 1842 годзе паступіў адразу ў трэці клас Навагрудскага павятовага вучылішча. Аднак яно не давала глыбокай і ўсебаковай адукацыі, дастатковай для паступлення ва універсітэт. І месцам далейшай вучобы стаў павятовы горад Слуцк — яго прынялі ў гімназію.

Рэвалюцыйная сітуацыя, якая склалася ў 1846—1848 гадах у Еўропе, атрымала шырокі водгук і ў Беларусі. Сярод інтэлігенцыі і вучнёўскай моладзі пачаліся хваляванні, ствараліся гурткі. Не была выключэннем і Слуцкая гімназія.

Аднойчы выкладчыку рускай мовы Быстрову хтосьці падкінуў запіску такога зместу: "Людовіка выгналі з Францыі, то і вы выбірайцеся са Слуцка". Аўтарам запіскі беспадстаўна палічылі Борзабагатага і семнаццацігадовага юнака выключылі з гімназіі. Давялося яму пакінуць Слуцк і вярнуцца ў Рутку. Гэта быў цяжкі ўдар, які ён не мог забыць усё жыццё. Пасля Борзабагаты ўспамінаў, што менавіта несправядлівасць абвінавачвання і суровае пакаранне ўзброілі яго "супраць усяго рускага". Родзічы далі Уладзіславу добрую параду, і ён паступіў у вядомую Мінскую гімназію. Прынялі туды Уладзіслава Борзабагатага з умовай, што ён будзе жыць у інтэрнаце пад наглядам. Каб атрымаць адукацыю, ён згаджаўся на ўсё. Але час быў неспакойны, палітычныя падзеі аказалі на яго свой уплыў.

Пасадзейнічала гэтаму знаёмства і дружба з Паўлам Вейштартам, які спе-

**(Працяг на 4-й стар.).**

*КЛОПАТ ФЕРМЕРА АЛЯКСЕЯ ЛАГУТЫ*

# УПАРТАСЦЬ, ПРАЦАВІТАСЦЬ І НАДЗЕЯ

У вёску Лукашын, куды прывяла нас журналісцкая цікаўнасць, ехаць напрасткі, хоць і на УАЗіку, адгаварылі. Таму мусілі даваць добры круг, каб патрапіць да фермера А. Лагуты. Шчыра, не надта прыемна было ехаць па калдобінах ад цэнтра калгаса імя Калініна да вёскі Волца. А вось едучы ад вёскі Волца да Лукашына, мы адразу адчулі, што некалі тут хадзілі вялікагрузныя аўтамабілі з гравіем. Заўжды ж так: вяршкі сабралі, а пасля — хоць патоп. Аўтатранспарт сюды даволі рэдка ходзіць, а дальнабачныя лукашынцы ездзяць пераважна на санях.

На водшыбе вёскі Лукашын, якая суцэльнай паласой працягнулася абапал дарогі, і размясціліся фермерскія ўгоддзі Аляксея Лагуты. Першае, што кінулася ў вочы, — старэнькая хатка, дзе і жыве фермер са сваёй сям'ёй, ды нядаўна збудаваны больш-менш ладны хлеў. З першых слоў размовы адчуваўся аптымізм гаспадара і яго вялікае жаданне працаваць на зямлі самааддана і з душой. Бо нават з добрага дзесятка вясковых жыхароў наўрад ці хто адважыцца ўзяць зямлю ў арэнду і працаваць толькі сям'ёй. Ніякіх значных і грашовых паступленняў ад свайго гаспадарання за год фермер пакуль не меў увогуле, але не расчараваўся, не кідаецца ў роспач. Як сёння, памятае яго сям'я той дзень, калі рашэннем райвыканкома было яму выдзелена 10 гектараў зямлі. Але, па яго

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

**БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР**

# ГАЛІНКА З ДРЭВА ВЕЧНАСЦІ

Шмат слынных песняроў было на беларускай зямлі. Нямала іх ёсць і сёння і, будзем спадзявацца, з'явіцца ў далейшым. І ўсё ж у гэтым шэрагу Максім Багдановіч займае (ды і будзе займаць) асобае месца. Некалі Цютчаў сказаў пра Пушкіна, што ён — "России первая любовь". У дачыненні да Беларусі смела можна сцвярджаць, што яе "первая любовь" М. Багдановіч. Але пры гэтым значнасць іншых творцаў, вартых усеагульнай увагі, ніколькі не зменшыцца, наадварот — і як бы павялічыцца. Бо пры падобнай аналогіі сам М. Багдановіч стане як бы наперадзе і добра будзе "відаць". Але ж і іншыя, хто жыў і тварыў да яго, ці тыя, хто прыйшоў у літаратуру пасля М. Багдановіча, таксама стануць лепш бачны. Ён не будзе іх засланяць, а яны — яго. І ў такім разе запануе справядлівасць, калі кожнаму надаецца сваё. Па таленту, па значнасці здзейсненага, па...

Талент на тое і ёсць талент, што ніколі да канца не вытлумачальны. І кожнаму новаму пакаленню адкрываць для сябе свайго М. Багдановіча і гэтаксама, як нам, здзіўляцца чароўнасці і магічнай сіле яго слова, усяму, што можна (і трэба!) назваць космасам паэзіі М. Багдановіча. Бо яго творчасць, кажучы словамі народнага паэта Беларусі Н. Гілевіча, — гэта "творчасць, якая чым далей адыходзіць ад журботнага крымскага маю, тым больш маладзее. Творчасць, якая ад нешырокага калісьці кола чытачоў на Бацькаўшчыне, няйначай як наважылася апаясаць сваім

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ*

### ПРЫЯРЫТЭТНАЯ ЗАДАЧА НА 1997 ГОД

**Пры рабоце над пасланнем да Федэральнага сходу РФ Барыс Ельцын лічыць адной з прыярытэтных задач на 1997 год далейшае збліжэнне Расіі і Беларусі. Аб гэтым Інтэрфаксу паведамілі крыніцы з акружэння кіраўніка дзяржавы.**

**Пры гэтым, паводле іх слоў, прэзідэнт разумее, што на шляху інтэграцыі дзвюх суверэнных дзяржаў ляжыць значная колькасць складанасцей як эканамічнага, так і фінансавага, прававога і чыста дэмакратычнага парадку. Аднак Б. Ельцын лічыць, што курс на максімальна магчымую інтэграцыю Беларусі з'яўляецца правільным і адказным, указалі крыніцы.**

**Барыс Ельцын упэўнены, што інтэграцыя дзвюх краін дасць магчымасць хутчэй і лепш аднавіць кааператыўныя сувязі ў ваеннапрамысловым і машынабудаўнічым комплексах, павялічыць ёмістасць агульнага рынку, выраўнуе эканамічныя структуры дзвюх краін, ліквідуе патэнцыяльную пагрозу ізаляцыі ад Еўропы, палепшыць стратэгічнае становішча РФ і Беларусі і павысіць сукупны ўплыў дзвюх краін у сусветнай палітыцы.**

**Акрамя гэтага, поспех аб'яднання можа надаць доўгатэрміновы імпульс працэсам інтэграцыі постсавецкіх дзяржаў, падкрэсліў крыніцы з акружэння Б. Ельцына.**

*ПРЫЗНАЧЭННІ*

### І. ПАШКЕВІЧ — НАМЕСНІК КІРАЎНІКА АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА

**Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі наместнікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь назначаны Іван Пашкевіч.**

**Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта, І. Пашкевіч нарадзіўся ў 1955 годзе ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці. Па нацыянальнасці беларус.**

**Адукацыя вышэйшая, закончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт імя М. Ламаносава, па спецыяльнасці — журналіст. Працоўную дзейнасць пачаў у 1972 годзе слесарам-аўтарамонтнікам. Служыў у радах Савецкай Арміі. Пасля заканчэння МДУ — на камсамольскай рабоце. 1983—1985 гады — спецкарэспандэнт галоўнай рэдакцыі інфармацыі БЕЛТА-ТАСС. У 1990—1991 гадах І. Пашкевіч узначальваў Рэспубліканскае выдавецтва маладзёжнага друку, затым працаваў у прэсслужбе Выканаўчага сакратарыята СНД. З 1994 года — І. Пашкевіч працаваў на пасадзе дырэктара Прадстаўніцтва Міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Мір" у Рэспубліцы Беларусь.**

*ВІЦЕБСКІЯ НАВІНЫ*



**У канструктарскім бюро "Дысплей" Віцебскага вытворчага аб'яднання "Віцязь" распрацаваны каляровы відэаманітор з экранам 84 сантыметры па дыяганалі і каляровы відэаманітор на вадка-крышталічнай панелі. Першую партыю навінак атрымаюць заказчыкі з краін СНД.**

**НА ЗДЫМКУ: відэаманітор дэманструе тэхнік-тэхнолаг Вольга АРХІРЭЕВА.**

*ГРАМАДСКІ ТРАНСПАРТ*

### НА ЧЫМ БУДЗЕМ ЕЗДЗІЦЬ

**Сітуацыя з абнаўленнем аўтобуснага парка ў краіне застаецца складанай.**

**За мінулы год спісана 420 аўтобусаў, яшчэ 3,5 тысячы машын чакаюць сваёй чаргі. У той жа час за кошт рэспубліканскага бюджэту набыта толькі 37 новых машын, ды яшчэ за сродкі мясцовых бюджэтаў куплена 80 "Ікарусаў", якія ўжо былі ў эксплуатацыі. А для нармальнай работы пасажырскага транспарту неабходна штогод закупляць не менш чым 850 адзінак тэхнікі.**

*ЗАЯВА ПРАФСАЮЗАЎ*

### РЭЗКАЕ ПАГАРШЭННЕ

**Павышэнне памеру мінімальнай зарплаты і тарыфнай стаўкі I разраду з I студзеня 1997 года фактычна кампенсавала толькі рост цэн за мінулы год — так Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў ацаніў сітуацыю, якая склалася сёння на спажывецкім рынку краіны.**

**Як адзначана ў распаўсюджанай заяве Савета ФПБ, толькі ў снежні мінулага года цэны ўзраслі на 7,4 працэнта. Што да пачатку года цяперашняга, дык тут малюнак яшчэ больш бязрадасны: 9,1 працэнта росту цэн за першыя тры тыдні і, па ацэнках прафсаюзаў, не менш як 10 працэнтаў — за студзень у цэлым. Асабліва турбуе тая акалічнасць, што падаражалі перш-наперш тавары першай неабходнасці і прадукты харчавання, пры гэтым некаторыя з іх — аж у 1,5—2 разы. Да таго ж, не прымусілі сябе чакаць і транспартнікі, якія пачалі са студзеня татальнае павелічэнне тарыфаў.**

**Сітуацыя ўскладняецца тым, што працягвае расці запазычанасць па заработнай плаце. Дарэчы, па стану на 25 студзеня яна склала ні многа ні мала — 568,2 мільярда рублёў.**

**Усе гэтыя акалічнасці, на думку Федэрацыі прафсаюзаў, прывялі да рэзкага зніжэння жыццёвага ўзроўню нашых грамадзян.**

*ЭКСПЕДЫЦЫЯ НА ПОЛЮС*



**У красавіку гэтага года шэсць беларускіх спартсменаў адправяцца ў экспедыцыю на Паўночны полюс. Незвычайнасць яе заключаецца ў тым, што ўдзельнікі будуць рухацца не традыцыйна, на лыжах, а на спецыяльна распрацаваных для прыпалярных і палярных шырот усюдыходах. Гэты транспарты сродак стварыў беларускі канструктар Віктар Радкевіч. У 1990 годзе яго праект перамог ва ўсесаюзным конкурсе.**

**Цяпер пры падтрымцы грамадскага фонду "Полюс", асноўнай мэтай якога з'яўляецца развіццё спартыўнага турызму ў Беларусі, а таксама падрыхтоўка ўдзельнікаў для арганізацыі экспедыцый у цяжкадаступныя раёны зямнога шара, беларускія спартсмены збіраюцца пакарыць на гэтых усюдыходах Паўночны, а ў будучыні і Паўднёвы полюс.**

**НА ЗДЫМКУ:** усюдыход, распрацаваны беларускім канструктарам Віктарам **РАДКЕВІЧАМ**, і зручны, і надзейны, і досыць лёгкі.

*"Нашы імкненні праводзіць незалежную палітыку, якая мае галоўным вектарам нацыянальныя інтарэсы краіны, выклікаюць незадавальненне як на Захадзе, так і на Усходзе. У Брусэлі нас пастаянна падазраюць у тым, што Мінск быццам бы імкнецца ўзнавіць нешта накшталт былой савецкай імперыі і зноў вярнуць кантынент у эпоху "халоднай" вайны і процістаяння ваеннапалітычных блокаў. Як адказ на гэты вельмі гіпатэтычны, а больш дакладна, зусім надуманы выклік — Захад фарсіруе пашырэнне НАТО, тым самым пераводзячы стрэлкі гадзінніка ў фантастычных у зусім рэальныя каардынаты; Беларусь можа аказацца пагранічнай краінай на новым "санітарным" кардоне. Зусім натуральна, што мы не можам падзяляць падобных знешнепалітычных падыходаў, заснаваных на старых уяўленнях і новых міфах. Але, з другога боку, любое зусім натуральнае жаданне Мінска ўзбуйніць дыялог з нашымі заходнімі партнёрамі, а таксама з Украінай выклікае ў некаторых маскоўскіх палітыкаў празмерна нервовую рэакцыю. Па-моему, асобныя паны ў Маскве сур'ёзна лічаць, што мая адкрытасць, непрадузятасць, гатоўнасць да любой дыскусіі азначаюць нейкую слабасць. Гэта памылка. Яе некалі зрабілі мае ўнутраныя апаненты, сёння на тыя ж граблі наступаюць людзі, якія думаюць, што маюць нейкія незвычайныя вартасці, якія даюць ім права вучыць Прэзідэнта суверэннай краіны. Калі мае словы здаюцца занадта туманнымі, то канкрэтызую: мы выразна ўсведамляем сваё месца і ролю на сучаснай палітычнай карце свету, зусім не пакутуем ад гігантаманіі, гатовы супрацоўнічаць на ўзаемавыгадных асновах з усімі, будзем удзячныя за бескарыслівую дапамогу з боку больш развітых у эканамічных адносінах дзяржаў, але пры гэтым не збіраемся нікуды інкарпаравацца ні ў рангу ландграфства, ні губерні.*

*(З адказаў Прэзідэнта Беларусі А. ЛУКАШЭНКІ на пытанні галоўнага рэдактара газеты "Советская Белоруссия").*

*ПОГЛЯД НА НАС*

### Лені ФІШЭР: «БЕЛАРУСЬ ПАВІННА МЕЦЬ ВЫБРАНЫ, А НЕ НАЗНАЧАНЫ ПАРЛАМЕНТ»

**СА СТАРШЫНЁЙ ПАРЛАМЕНЦКАЙ АСАМБЛЕІ САВЕТА ЕЎРОПЫ ПАНІ ЛЕНІ ФІШЭР ГУТАРЫЦЬ ЖУРНАЛІСТ ЮРЫЙ СВІРКО**

*— 31 студзеня, у апошні дзень зімовай сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, Бюро ПАСЕ вярнулася да беларускай праблемы. Што адбылося на апошнім пасяджэнні бюро і што было вырашана рабіць з Беларуссю?*

**— На бюро мы абмеркавалі рэакцыю на наша рашэнне прыпыніць статус беларускага парламента як спецыяльна запрошанага ў ПАСЕ. Даволі многія адрэагавалі на гэта рашэнне, і асабліва з расійскага боку прагучала крытыка. Мы таксама абмеркавалі магчымыя меры, якія мы маглі б прыняць. Толькі што я атрымала прапанову Расіі правесці спецыяльны семінар па Беларусі ў Ноўгарадзе. Я думаю, што нам трэба будзе абмеркаваць гэту прапанову, а таксама пісьмо Міністэрства замежных спраў Беларусі, якое таксама толькі што прыйшло. Мабыць, я не павінна каменціраваць гэта пісьмо, паколькі на пісьмы не прынята адказваць у інтэрв'ю, але магу сказаць, што яно даволі цікавае. З розных бакоў паступаюць розныя думкі, якія мне трэба будзе прааналізаваць, але сітуацыя паказвае, што наша рашэнне было прынята на сур'ёзных падставах. Адначасова ў мяне складваецца ўражанне, што Беларусь — гэта краіна, якая па-ранейшаму зацікаўлена ў сумеснай рабоце з Саветам Еўропы.**

*— Якія ўмовы вяртання Беларусі ў Савет Еўропы?*

**— Мы не складаем спісы ўмоў, але адна з іх — мець выбраны парламент, а не назначаны. Нават калі хто-небудзь пажадае аспрэчыць гэта на той падставе, што такая Канстытуцыя і згодна з Канстытуцыяй парламент назначаецца. Гэта будзе толькі азначаць, што сёе-тое няправільна ў гэтай Канстытуцыі з пункту гледжання дэмакратычных стандартаў.**

*— Гэта значыць, Беларусь мае патрэбу ў новай Канстытуцыі?*

**— Відаць, што так. Але мы ведалі, што і старая Канстытуцыя 1994 года мела патрэбу ў рэструктурызацыі, таму што ўраду было складана што-небудзь рабіць. Для мяне асабіста было ясна, што патрэбны змены. Але на крок назад. Тым больш, не трэба было выносіць вельмі складаныя пытанні на рэферэндум, без сапраўднага тлумачэння яго вынікаў для парламентарызму.**

*— Ці прызнаеце вы стары парламент — Вярхоўны Савет?*

**— Мы лічым, што ранейшы, я хачу сказаць законны, парламент цяпер не мае сілы прымаць законы. Таму мы прынялі рашэнне прыпыніць дзеянне статусу спецыяльна запрошанага. Гэта робіць націск на палітычныя сілы і ўрад, каб яны пастараліся знайсці рашэнне і прыйсці да пэўнай згоды.**

*— Калі можа адбыцца спецыяльны семінар у Ноўгарадзе?*

**— Думаю, што нам трэба абмеркаваць умовы і сцэнарый гэтага семінара, якія прапануюцца расіянамі. Добра, што яны хочуць быць актыўнымі ў вырашэнні гэтай праблемы, паколькі Расія была ў значнай ступені ўцягнута ў яе і раней. Я маю на ўвазе начное пасяджэнне ў Мінску з удзелам Чарнамырдзіна і Селязнёва. І як горка яны былі расчараваны тым, што дасягнутае імі начное пагадненне не было рэалізавана на практыцы! Я добра магу зразумець імкненне Расіі вырашыць гэтую праблему і быць задаволеной гэтым рашэннем. Але якімі будуць нашы пасрэдніцкія намаганні, вырашае Парламенцкая асамблея Савета Еўропы. У нас ёсць дакладчыкі, ёсць палітычныя групы і камітэты ПАСЕ, і я думаю, што мы падыдзем сур'ёзна да гэтага і знойдзем, як, калі і з кім сустрэцца па праблеме Беларусі.**

*— Што збіраецца рабіць Савет Еўропы ў адносінах да Беларусі?*

**— У саставе місіі Еўрапейскага саюза, накіраванай у Мінск, знаходзіліся два эксперты Савета Еўропы па прававых пытаннях. І можаце быць упэўнены, што іх справаздачы і высновы будуць самым старанным чынам вывучаны і правераны Парламенцкай асамблеяй, перш чым бюро прыме рашэнне. Мы не спяшаемся.**

г. Страсбург.

*AIDS*

### ПЕРАСЯГНУЎ ТЫСЯЧУ

**З чэрвеня мінулага года, калі была выяўлена ВІЧ-інфекцыя ў Светлагорску, сітуацыя з захворваннем на СНІД у Беларусі выклікае ўсё больш апасенняў. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў Рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІДу, па самых апошніх даных, у краіне выяўлены 1 195 ВІЧ-інфіцыраваных, уключаючы тых, у каго першасныя лабараторныя аналізы яшчэ не пацверджаны.**

**Сумнае лідэрства па колькасці паражоных ВІЧ-інфекцыяй замацавалася за Гомельскай вобласцю, дзе зарэгістраваны 1 031 падобны выпадак, у тым ліку ў Светлагорску — 846, у Жлобіне — 124. Пры гэтым смертаносная інфекцыя заявіла аб сабе практычна ва ўсіх раёнах вобласці. Што тычыцца Мінска, дыягназ "ВІЧ" пастаўлены 97 жыхарам сталіцы. Аднак не варта забываць, што, па падліках спецыялістаў, рэальная колькасць інфіцыраваных, як правіла, перавышае статыстычныя даныя ў некалькі разоў.**

**Пераважная большасць заражаных СНІДам у Беларусі — шпрыцавыя наркаманы. Ёсць звесткі, што некалькі светлагорскіх наркаманак цяжарныя. Таму не выключана, што колькасць дзяцей, паражоных ВІЧ, у рэспубліцы павялічыцца. Цяпер у Беларусі зарэгістравана два такія выпадкі. Версія ж аб тым, што інфекцыя сярод наркаманаў Светлагорска распаўсюдзілася з-за заражонага наркотыка, па-ранейшаму не выключаецца.**

# УПАРТАСЦЬ, ПРАЦАВІТАСЦЬ І НАДЗЕЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

словах, запозна не змог засеяць азімымі. Рэгіструючы фермерскую гаспадарку, цвёрда вызначыў напрамкі дзейнасці: земляробства і жывёлагадоўля. На вялікае не замахваецца, бо ведае цяжкую сялянскую працу, сам жа з вёскі. "Тое, што намеціў, па сілах мне і маёй сям'і..."

Сама сям'я, як і фермерская гаспадарка, на шляху станаўлення і росту. Сыны яго яшчэ ў школу не ходзяць, але па-гаспадарску руплівыя, дапамагаюць насячы бульбы і нарэзаць буракоў. Старэйшаму Колі — шэсць гадоў, а малодшаму Мішы — пяць. Іх справа — пакарміць свой статак: некалькі трусоў, катоў і сабак.

Перспектыва апынуцца на мяжы існавання яго не палохае. Цвярозая сялянская разважлівасць і ўпартасць, а ў цэлым рысы яго характару — працавітасць і надзея не пакідаюць нават сумневу для гэтага.

Ужо сёння Аляксей Мікалаевіч гаворыць, што зацягнуў з гэтай задумай. Найбольш спрыяльны для фермерства быў пачатак 90-х гадоў. Праўда, нейкія пэўныя зрухі ў станаўленні фермерскай гаспадаркі ёсць. Цікавіцца яго працай і кіраўніцтва раёна. Указам Прэзідэнта краіны зменшана працэнтная стаўка па льготнаму крэдыту фермерам з трыццаці да дваццаці працэнтаў. Каб часткова пагасіць крэдыт дваццаць мільёнаў, які браў у банку, давялося прадаць аднаго каня. І хоць сам Лагута шафёр і трактарыст і мае багаты працоўны стаж з 1976 года, ніводнай сельгасмашыны ў гаспадарцы няма. Але асабліва зацягваць з пакупкай так неабходнай тэхнікі не думае. Той жа крэдыт у красавіку — май разышоўся на пакупку маладняку буйной рагатай жывёлы. Але ўжо нейкія прыбыткі дае статак, пасевы і азімыя, таму новы год абяцае быць больш плённым.

Міжволі падумалася: чаму ж гэта чалавек вырашыў змяніць прывычны ўклад жыцця? Меў працу ў калгасе, добрую хаціну ў Зарэччы, сваімі рукамі нават лазню на падворку збудаваў, але ўсё гэта мяркуе прадаць. Таму наступным і было маё пытанне: "Што за прычына прымусіла выйсці з калгаса, адасобіцца і ўзяць зямлю?"

— Абудзілася сялянскае сумленне: захацеў самастойна працаваць на сваёй зямлі. У бацькі было некалі 15 гектараў. Вось я і вырашыў паспрабаваць, што з гэтага атрымаецца... У маі купіў хатку. Калі складаў фермерскую праграму, то планаваў перабудавацца на выдзеленую зямлю за тры гады, а перайшоў пастаянна жыць і працаваць ужо праз паўгода. Станаўленне ідзе не без дапамогі кіраўніцтва раёна. Летась сюды правялі сілавую лінію электраперадач. Лепшую б мець дарогу, ды хацелася б правесці тэлефон, заяву напісаў, але калі правядуць — невядома. У Малюшычах ёсць свабодныя нумары, але пакуль задорага. Больш думаецца пра неабходнае: трактар трэба прыдбаць, калі ўсур'ёз фермерствам займацца. Другое — гэта будоўля. Толькі склад хлеў. Яшчэ неабходна гумно, бо сена захоўваю ў стозе. Не па-гаспадарску.

Разам з мужам весці гаспадарку дапамагае жонка Святлана Міхайлаўна, якая раней працавала ў клубе вёскі Волца.

— Якую фермерскую гаспадарку Аляксей Мікалаевіч хоча мець у будучыні?

— Сама меней — чатыры каровы, маладняк, падгадаваўшы, здаваць на мяса, авечак галоў з дзесятак, дзве свінаматкі, каня. На больш не размахваюся, бо не выцягну на дзесяці гектарах, з якіх ужо зараз пяць ідзе пад сенакос, тры — пашавыя ўгоддзі, паўтара гектара было занята пад яравымі — ячменем і аўсом. Узяў па 30 цэнтнераў "на круг". З цягам часу, калі абжывуся, буду пісаць, каб далі яшчэ гектараў з пяць. Нешта буду мець і ад рэалізацыі малака дзяржаве.

Дзеці хутка ў школу пойдуць. Школы побач няма, таму будуць хадзіць за 2,5 кіламетра ў вёску Машэвічы.

Сям'я задаволена. І хоць адчуваюць усё ж нейкую неўладкаванасць, на жыццё не скардзяцца. А за аснову ўзята земляробства і жывёлагадоўля, бо толькі ў гэтым цесным узаемадзеянні адна галіна спрыяльна дапаўняе другую. З боку мясцовага калгаса імя Калініна — ніякай падтрымкі.

— Вось так: сам і заатэхнік, і ветурач, і даглядчык... Але даходзіць і да кур'ёзаў: падаў дакументы на рэгістрацыю, а мінімальны статутны фонд вызначаны ў 10 мільёнаў рублёў. Ён абавязковы, а калі шчыра, то ў мяне зберажэнняў толькі паўтара мільёна рублёў. Я ж і так на крэдытах сяджу. Прадаць карову і ўносіць статутны фонд не збіраюся. Першыя тры гады вызвалены ад падаткаў, а далей што будзе — не ведаю... Спадзяюся, што калі не будзе вось такіх недарэчнасцей, абжывуся і сваіх дзяцей выгадую добрымі фермерамі.

**Пётр ЖЭБРАК.**



**НА ЗДЫМКУ: сям'я фермера А. ЛАГУТЫ з вёскі Лукашын Карэліцкага раёна.**

**Фота Леаніда ЛЕЙКІ.**



# ЛЕС ПІЛУЮЦЬ, ЛЕС СЯКУЦЬ

**У Беларусі ў разгары зімні сезон нарыхтоўкі драўніны. Зіма для гэтага — прыдатны час: можна вывезці з балоцістых мясцін лісцевыя пароды дрэў.**

**Прымяняюцца розныя спосабы нарыхтоўкі. У апошнія гады ў Касцюковіцкім, Чэрвеньскім, Бярэзінскім і іншых лягсагас і леспрамгасах усё ў большых памерах выкарыстоўваюць паступовыя высечкі галоўнага карыстання. Праводзяцца яны ў два альбо тры прыёмы. Спачатку высякаецца, напрыклад, 20 працэнтаў спелых дрэў. Праз гадоў дзесяць яшчэ 25, яшчэ праз дзесяць — астатнія.**

**Такі спосаб эканамічны і эфектыўны. Падрост вырастае сам, не трэба траціць сродкі і час на вырошчванне саджанцаў, іх пасадку.**

**Не трацяць часу і ў Асіповіцкім леспрамгасе. Інтэнсіўна вядуцца работы на старадарожскім участку. На здымках вы бачыце нарыхтаваную драўніну і брыгаду нарыхтоўшчыкаў у час абеду: аператар сучкарэзнай машыны Анатоль КІРДУН (злева направа), аператары валачных машын Мікалай ЖУКАВЕЦ, Міхаіл КУМАГЕР.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



*МЫ І НАША ЭКАНАМІЧНАЯ ПРАСТОРА*

# СПАД, ПАД'ЁМ ЦІ ЗАНЯПАД?

Адна з асаблівасцей, але, бадай, не дзіўная, цяперашняга "эканамічнага моманту" ў тым, што ён, гэты момант, ацэньваецца ў самой краіне ці не процілеглымі адзнакамі: з боку уладных структур, зразумела, з пэўным аптымістычным гучаннем, са стану апазіцыі даносіцца глыбока песімістычны стогн. Вырашае ж, хто мае рацыю, канешне, толькі само жыццё, а дакладней, кожны з жыхароў Беларусі асабіста — выходзячы з запоўненасці паліц уласнага халадзільніка і ўсяго таго, што ёсць у кішэні гаспадара. Пакуль для пераважнай большасці беларусаў змесціва і першага, і другога пакідае жадаць лепшага.

Самае галоўнае, што прыгнятае, — няспынны рост цэн. Так, ён быў і дагэтуль, але цяперашні ўсплеск перавысіў усе чаканні сярэднестатыстычнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, якога яшчэ на пачатку восені пераконвалі: вось пройдзе рэферэндум і "жить станет лучше, жить станет веселей". Не выключана, некаму сапраўды пасля атрыманай перамогі зрабілася значна лепей. Але вось толькі ў параўнанні са снежнем моцна парадзела смятана і малако (магчыма, клопат пра здароўе народа: тлустасць шкодзіць здароўю?), яйлавічына на булёнчык стала даражэйшай ці не ў два разы (таксама, мабыць, каб залішні халестэрын не хапаў, лекі ж вунь уже амаль ці не залатыя!), кошт адной паездкі ў метро, як і адной бутэлькі гарэлкі, працэнтаў на трыццаць "пацяжэў" — зноў-такі нішто і не спрачаецца: піць трэба менш, а хадзіць пешшу больш, улічваючы, што і з бензінам "напружэнка".

Дарэчы, пра апошні. У студзені нават быў уведзены яго лімітаваны продаж, зусім у адпаведнасці з шырока вядомым правілам бясконцых чэргаў часоў развітога сацыялізму: "больш двух у адны рукі не даваць". Праўда, у даным выпадку абмяжоўваліся іншай лічбай — толькі дваццаць літраў у адзін бак. А што рабіць? Няма бензіну: перакрыла Расія "кранік", маўляў, спачатку даўгі заплаціце, браткі, а тады не хвалюйцеся, зноў працякуць да вас бензінавыя рэкі.

Ды Бог з імі, аўтамабілямі, у нашай краіне, як вядома, яны спакон веку раскоша, а не сродак перамяшчэння. Вернемся да лекаў. Нягледзячы на ўвесь клопат улад, нейдзяччына, несвядомыя грамадзяне працягваюць хварэць. Безумоўна, сённяшнія аптэчныя паліцы не параўнаць з колішнімі, нават трох-, пяцігадовай даўнасці. Тым не менш нярэдка даводзіцца чуць, што людзі больш і больш лечацца травамі, якія самі ж і збіраюць улетку. Магчыма нехта сапраўды лічыць такі варыянт лепшым за "таблетачны". Але часцей куфрак адкрываецца проста: не хапае грошай на аптэчныя лекі. Значна расце кошт нават на тыя з іх, што жыццёва неабходныя. Напрыклад, нітрагліцэрын — "ежа" сардэчнікаў, за апошнія паўтара месяца падаражаў больш, чым у два разы! Але ў Камітэце па цэнах лічаць: "У краіне захоўваецца курс на правядзенне ўзважанай цэнавай палітыкі". Хто мае рацыю?

Пачатак сёлетняга эканамічнага года азнаменаваўся яшчэ адной значнай падзеяй: рэзкім успляскам курса долара і адпаведна падзеннем рубля. Некалькі дзён абменныя пункты скуплялі ў насельніцтва наяўную валюту па трыццаць тысяч беларускіх "зайцаў" за адзін амерыканскі долар. Хаця існуе меркаванне шэрагу спецыялістаў, што працэс той быў аб'ектыўны, улады палічылі такі курс спекулятыўным і скамандавалі "адкруціць назад". Зараз купіць долар больш чым за дваццаць дзве тысячы ніводзін банк не мае права, бо страціць ліцэнзію. Вось і стаяць грамадзяне ў чэргах каля "абменнікаў" суткамі, каб купіць валюту. Можна было б, канешне, ім і не спачуваць: няхай сваімі беларускімі грошыкамі цешацца, але ж мы жывем пакуль яшчэ не ў цалкам замкнёнай межамі прасторы, а за яе рубяжом нікому нашы гэтыя "грошыкі" не патрэбныя. Хіба што на сувенір?

А дзяржава ўсё клапоціцца і клапоціцца пра свой народ. Вось Камароўскі рынак у Мінску вырашана прывесці ў адпаведнасць з уяўленнямі ўладаў пра тое, "что такое хорошо и что такое плохо". Аказваецца, было дрэнна, што на Камароўцы прадаваліся многія тавары — прадукты харчавання значна лепшай якасці і таннейшыя, чым у магазінах. Не, само па сабе гэта было яшчэ цярпіма, але ж гандлявалі імі прыватныя гандляры, пасрэднікі, якія, зразумела, мелі з таго свой прыбытак. Вось апошняе і палічылі нясцерпным. Цяпер Камароўскі рынак — цалкам дзяржаўная ўстанова. Цяпер усім павінна стаць добра, незразумела толькі, чаму прылаўкі напустыя? Хаця ўсё ж такі зразумела, бо гэта мы ўжо праходзілі (прычым не так даўно), калі дзяржаўныя чыноўнікі кіравалі кожным нашым крокам і ўздыхам... Праўда, і тут можна расцаніць усё як клопат пра народ. Прылаўкі заваленыя рознымі там паляндвіцамі, філеем, вяндлінамі, каўбасамі... Цяжка. У каго грошы ёсць — цяжка, бо заморышся выбіраць. У каго іх няма — таксама цяжка, тут зразумела, чаму. Вось і вырашана глядзець у корань. Пусты прылавак — і ўсім лягчэй: адным не трэба мучыцца хадзіць выбіраць, а другім перажываць з-за адсутнасці грошай: няма дык няма.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# ВІЗАВАЯ ЛАТАРЭЯ НА ЎЕЗД У ЗША

***Рэдакцыя "Голасу Радзімы" атрымала ў канцы студзеня паведамленне Іміграцыйнага аддзела Кансісторыі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы з ЗША з просьбай апублікаваць яго ў нашай газеце. Тэкст паведамлення датычыцца магчымасці эміграцыі ў ЗША. Вось што падаецца ў ім (захоўваем мову і стыль арыгінала):***

Адной з гэтых магчымасьцяў ёсьць устаноўленая іміграцыйным законам ЗША візавая лятарэя, у якой 55 000 грамадзянаў іншых краёў могуць выграць візы на ўезд і сталае пасяленьне на амэрыканскай зямлі.

Хоць лятарэя й пачалася ў 1990-м годзе ды, для прыкладу, палякамі была выкарыстаная так шырока, што сёлета ім удзел у ёй зачынены, у Беларусі яна амаль няведамая.

Каб і сёлета ня страціць гэтую нагоду на ўезд нашых суродзічаў у ЗША Іміграцыйны Адзьдзел Кансысторыі БАПЦ ніжэй падае атрыманую зь Дзяржаўнага Дэпартаманту інфармацыю як запісацца на ўдзел у гэтай лятарэі:

Права запісацца на лятарэю й выграўшы візу прыехаць у ЗША маюць усе народжаныя ў Беларусі й у краінах СНД, калі маюць сярэднюю асьвету, або два гады практыкі ў прафэсіі вызначанай Дэпартамантам Працы ЗША.

Школьныя пасьветчаньні, або довады працоўнае практыкі ня трэба пасылаць запісваючыся на лятарэю, а чакаць пакуль яны будуць запатрабаваныя.

Можна падаваць толькі адну заяву на ўдзел у лятарэі, хто падасьць больш будзе зусім адкінуты.

Заяву можна падаць самому, або цераз пасярэднікаў.

Заяву трэба пісаць машынкай, або ад рукі друкаванымі ангельскімі літарамі (лацінкай) на аркушы (лісьце) звычайнае паперы, падаючы асабовыя дадзеныя, як паказана ніжэй:

1. Прозьвішча, імя й другое імя, калі яно ёсьць (ня пісаць імя па бацьку). **Прозвішча** абавязкова трэба **падчыркнуць.**

2. Дата й мейсца нараджэньня (дзень, месяц, год і горад (сяло, вобласьць, край).

3. Імёны, даты й мейсцы нараджэньня жонкі (мужа) й малодшых за 21 год жыцьця нежанатых (незамужных) дзяцей.

4. Поўны й дакладны адрыс заяўніка (куды павінен ісьці адказ). Нумар тэлефону пажаданы.

5. Родны край (native contry), калі іншы ад краю нараджэньня (conhtry of birth). Тады, каб лучыць у лік эмігрантаў (квоту) зь Беларусі можна падаць беларускае грамадзянства (Belarusian citizenship), калі яно ёсьць, або паходжаньне (Belarusian origin). Хто народжаны й жыве ў Беларусі хай ня піша нічога.

6. Да гэтак выпаўненага ліста трэба прымацаваць празрыстай праклейнай устужкай (прышчэпкі й шпількі не дазваляюцца) сваю нядаўнюю фатаграфію 37 мм х 37 мм, на другім баку якое друкаванымі ангельскімі літарамі напісанае прозьвішча й імя.

7. Заяву трэба падпісаць звычайным подпісам.

Выпаўненую **заяву** трэба **выслаць звычайным** (не заказным) лістом у канвэрце ад 15 да 25 цм доўгім і ад 9 да 11 цм шырокім, заадрасаваўшы яго перш у верхнім левым куце таксама друкаванымі ангельскімі літарамі гэтак:

Край нараджэньня (BELARUS, або іншы).

Прозвішча й імя.

Вуліца, нумар дому й кватэры.

Горад, вобласьць, паштовы код.

Край (BELARUS, або інш.).

Ніжэй, калі пасылаеце зь Беларусі, або з Эўропы пасярэдзіне заадрасаваць:

DV 98 PROGRAM
NATIONAL VISA CENTER
PORTSMOUTH. NH 00212 USA

Тыя, што часова жывуць у ЗША й Канадзе, хай ставяць код 00215 (00214 Аўстралія, 00210 Азыя).

Заяву выслаць поштай, найлепш паветранай, каб дайшла не раней 3-га лютага і не пазьней 5-га сакавіка 1997-га году, інакш яна будзе адкінутая.

Толькі тыя, што выграюць візы, будуць паведамленыя аб гэтым улетку 1997-га г. і тады атрымаюць далейшыя інструкцыі ў справе выязду.

Іхныя жонкі (мужы) й непаўналетнія дзеці будуць таксама мець права на атрыманьне візаў.

Афармленьне ўсіх дакументаў на ўезд мусіць быць закончанае да 30-га верасьня 1998-га году.

Іміграцыйны Адзьдзел Кансысторыі БАПЦ падаючы гэтае паведамленьне, лічыць сваім абавязкам папярэдзіць зацікаўленых у эміграцыі, што пачаткі жыцьця ў ЗША могуць быць нялёгкія й разьлічваць на якую-колечы дапамогу ў гэтых абставінах нельга, а трэба спадзявацца на свае сілы, ды таму раіць адважвацца на выязд зь Беларусі толькі тым суродзічам, якія гатовыя на найбольшыя ахвяры дзеля дабра свае роднае Праваслаўнае Царквы й нашае Бацькаўшчыны.

***Іміграцыйны Адзьдзел Кансысторыі БАПЦ***

*Сьнежань 1996*

# АД НЯНАВІСЦІ ДА СПАГАДЫ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

цыяльна перавёўся з Віленскай гімназіі ў Мінскую, каб стварыць у ёй філіял тайнай арганізацыі "Брацкі саюз літоўскай моладзі". Члены гэтага саюза выступалі за раўнапраўе людзей незалежна ад іх веравызнання і нацыянальнасці, патрабавалі ліквідацыі саслоўных прывілей, вызвалення сялян і забеспячэння іх зямлёй, самастойнасці Польшчы і абвяшчэння яе рэспублікай. Даведаўшыся ад Уладзіслава пра яго слуцкую гісторыю, Павел прапанаваў яму прыняць удзел у падрыхтоўцы паўстання. З цягам часу Уладзіслаў стаў не толькі членам гэтай арганізацыі, але і адным з яе кіраўнікоў. Праз многа гадоў ён скажа следчай камісіі, што пайшоў на такое "ад жадання адпомсціць за слуцкія несправядлівасці".

У канцы 1848 года — пачатку 1849-га ішла практычная падрыхтоўка паўстання. Яно планавалася на 5 красавіка 1849 года. Удзел Уладзіслава ў агітацыі і распаўсюджванні антыўрадавых пракламацый не застаўся незаўважаным. Сваю ролю адыграў у гэтым школьны шпіянаж, які насаджала адміністрацыя.

Масавыя арышты, што правялі царскія ўлады ў сакавіку 1849 года, перашкодзілі паўстанню. Следства вялося супраць 200 удзельнікаў. Многіх з іх асудзілі на катаргу, аддалі ў салдаты. За сувязь з "Брацкім саюзам..." і ўдзел у яго дзейнасці атрымалі пакаранне больш за 60 навучэнцаў Мінскай гімназіі. Не пазбег рэпрэсій і Уладзіслаў Борзабагаты. Яго выключылі з гімназіі без права аднавіцца і працягваць вучобу ў іншых навучальных установах. Адначасова не абышлося і без лупцоўкі.

Экзекуцыя над вінаватымі (ад 25 да 100 удараў) праводзілася 27 чэрвеня 1849 года. На яе сабралі ўсіх гімназістаў. Ім было загадана стаяць у страі і глядзець на зневажальную працэдуру. У двары паставілі спецыяльную лаўку, вартаўнік прынёс падрыхтаваную лазу. Пры пакаранні прысутнічаў сам губернатар. Уладзіслава адным з першых прывязалі да лаўкі. У дзень сваіх імянін ён замест 100 удараў атрымаў 101. Дапушчаная памылка дала падставу яму пасля гэтага называць сябе "кавалерам 101 рускай палкі". Публічны здзек яшчэ больш абвастрыў яго нянавісць да царскіх улад.

Малады здольны юнак зноў вымушаны быў вярнуцца ў родную Рутку. Давялося сказаць маці і братам, што прыехаў на канікулы, якія зацягнуліся надоўга. У верасні нічога не заставалася, як прызнацца, што выключылі з гімназіі. Пачалося цяжкае жыццё пад наглядам паліцыі. Пра якую-небудзь дзяржаўную службу не магло быць і гаворкі.

Ды рэпрэсіі не прымусілі Уладзіслава здрадзіць сваім ідэалам. Надзелены вялікай сілай волі і непахісны ў сваіх учынках, ён пачаў займацца самаадукацыяй. Спачатку яго зацікавіла філасофія, потым — палітычная эканомія. Але прысвяціць сябе толькі вывучэнню гэтых навук было немагчыма. З-за матэрыяльных цяжкасцей давялося паступіць гувернёрам да павятовага ўрача П. Гнаінскага, які жыў у Навагрудку. Займаючыся навучаннем і выхаваннем яго дзяцей, можна было ўдасканальваць і свае веды.

У гэтай сям'і Уладзіслаў пазнаёміўся з гувернанткай Фані Штрудзель, якая нарадзілася ў горадзе Лазане (Швейцарыя). У 1849 годзе яна прыехала ў Гродна, дзе тры гады працавала гувернанткай. Пасля гэтага па запрашэнню доктара П. Гнаінскага прыехала ў Навагрудак. Уладзіславу адразу спадабалася новая гувернантка. Сумесная праца зблізіла іх, выявіла па многіх пытаннях супадзенне поглядаў. Узнікла каханне, і 15 жніўня 1854 года яны пабраліся.

Пасля ўзыходжання на прастол у 1855 годзе Аляксандра II была абвешчана амністыя, і выключаныя з навучальных устаноў па палітычных матывах атрымалі магчымасць прадоўжыць адукацыю. Гэта выкарыстаў і Уладзіслаў Борзабагаты. Падрыхтаваўшыся самастойна, ён здаў экзамены за поўны курс гімназіі. На сямейнай нарадзе было ўхвалена яго даўняе жаданне паступіць на медыцынскі факультэт. Месцам вучобы У. Борзабагаты абраў Маскву. Трапіць туды было няпроста, бо, як нядобранадзейнаму, для гэтага патрабаваўся дазвол віленскага генерал-губернатара Назімава. Хоць і з цяжкасцю, але ўсё ж такі дакумент удалося атрымаць.

У канцы 1855 года Уладзіслаў Борзабагаты прыехаў у Маскву і стаў студэнтам медыцынскага факультэта. У студэнцкія гады У. Борзабагаты жыў сціпла: наймаў пакойчык, зарабляў урокамі, эканоміў на ўсім. Яго сябрамі, аднадумцамі ў перыяд вучобы ў Маскве сталі К. Хмялеўскі, К. Длускі, Я. Карловіч, Т. Корзан. Прафесары і іх асістэнты з павагай ставіліся да працавітага Уладзіслава. Яны і думкі не дапускалі, што ён можа цікавіцца яшчэ чым-небудзь, акрамя медыцыны. Між тым з першага года вучобы Уладзіслаў уключыўся ў работу нелегальнага гуртка "Агул", членамі якога былі малазабяспечаныя студэнты з Беларусі, Літвы і Польшчы.

10 студзеня 1861 года Уладзіслаў Борзабагаты атрымаў дыплом урача. Ён адразу ж паехаў у свае родныя мясціны, пасяліўся ў Навагрудку. Разлічваць на дзяржаўную службу малады ўрач не мог. Давялося заняцца прыватнай практыкай. Такое становішча адпавядала яго планам, дазваляла свабодна перамяшчацца, быць бліжэй да народа.

У. Борзабагаты некалькі разоў з'ездзіў у Вільню, дзе ішла кансалідацыя дэмакратычных сіл. Яму ўдалося не толькі наладзіць кантакты з Літоўскім правінцыяльным камітэтам (ЛПК), але і стаць яго прадстаўніком у Навагрудскім павеце. На Борзабагатага зрабіў вялікі ўплыў К. Каліноўскі, які з восені 1861 года ўзначаліў Літоўскі правінцыяльны камітэт. У. Борзабагаты стаў аднадумцам і паплечнікам К. Каліноўскага.

У. Борзабагаты не быў пасіўным сузіральнікам і тых падзей, што адбываліся на Навагрудчыне. Значную ролю адыграў ён у кансалідацыі рэвалюцыйных сіл. У гэтым найбольш праявіліся яго выключныя здольнасці арганізатара, прапагандыста і канспіратара. Пошукі аднадумцаў У. Борзабагаты вёў перш за ўсё сярод праціўнікаў урада.

Адзін з першых, на каго ён звярнуў увагу, быў Казімір Праневіч, сапраўдны ветэран рэвалюцыйнага руху, вядомы яшчэ па паўстанню 1831 года. Уладзіслаў Канстанцінавіч беспамылкова ўбачыў у ім чалавека, які аказваў вялікі ўплыў на простых людзей, на моладзь. Як бачна з паказанняў У. Борзабагатага, К. Праневіч яшчэ да іх знаёмства пачаў актыўна ствараць з незадаволеных існуючым ладам дзесяткі і сотні для будучай арганізацыі. Але ён не завяршыў справы, таму што быў арыштаваны і ў турме памёр. Далейшыя клопаты аб стварэнні ў павеце рэвалюцыйнай арганізацыі ляглі на У. Борзабагатага. Пад выглядам урачэбных візітаў ён вывучаў настроі людзей, вёў з імі даверлівыя размовы. Умелая і настойлівая агітацыя дала свае вынікі. Вырасла колькасць прыхільнікаў, з'явіліся яны і сярод сялян. Пазней гэта прызнае і следчая камісія.

Дзякуючы намаганням У. Борзабагатага, рэвалюцыйная арганізацыя ў Навагрудскім павеце да канца 1862 года была створана. У яе ўваходзіла больш за 100 чалавек. У адпаведнасці з інструкцыяй, атрыманай ад Віленскага камітэта, праведзена расстаноўка сіл. Кожная акруга складалася з прыходаў (парафій). Нізавым звяном былі валасці (гміны). Члены арганізацыі, якія ў іх уваходзілі, дзяліліся на дзесяткі, сотні. Начальнікамі акругаў сталі памешчыкі М. Дубічынскі, О. Бохвін, граф К. О'Рук, ксёндз М. Радзівіл. Нямала актыўных членаў было і ў нізавых арганізацыях. Адным з бліжэйшых памочнікаў Борзабагатага стаў Зянон Навадворскі, былы ваенны ўрач, які практыкаваў у мястэчку Гарадзішча. Ён праводзіў збор грошай і прадуктаў для будучага паўстанцкага атрада і ведаў становішча спраў у арганізацыі. Яму суджана было ўзначаліць арганізацыю на апошнім этапе яе дзейнасці. Дапамагала рэвалюцыянерам і Малання Дабашынская. У яе доме ў Навагрудку захоўваліся спісы будучых паўстанцаў, перапіска з нізавымі арганізацыямі. Яна займалася таксама зборам грашовых сродкаў на патрэбы паўстання.

Да нелегальнай дзейнасці У. Борзабагаты далучыў і сваіх родных. Яму актыўна дапамагалі малодшыя браты Іосіф — студэнт Кіеўскага універсітэта, Антон — урач у Слуцку, брат жонкі Рудольф Штрудзель. Як пакажа следства, дачыненне да арганізацыі мелі і іншыя члены сям'і.

У Навагрудскай рэвалюцыйнай арганізацыі з самага пачатку не было поўнага адзінства. Зацятым праціўнікам У. Борзабагатага стаў К. Кашыц са сваімі прыхільнікамі. Гэта быў буйны памешчык, які валодаў некалькімі маёнткамі ў павеце. Двойчы ён прасіў дапамогі царскіх войск для падаўлення сялянскіх хваляванняў у сваіх маёнтках. Яго погляды на вызваленчы рух вызначаліся блізкасцю да партыі "белых". Знаходзячыся пад уплывам яе лідэра ў Літве Я. Гейштара, ён усяляк імкнуўся тармазіць падрыхтоўку паўстання, а яго поспехі звязваў з дапамогай французаў.

Што ж датычыцца У. Борзабагатага, то ён не разлічваў на апеляцыю да сэрца і розуму грамадства, не спадзяваўся на замежную падтрымку і бачыў магчымасць вырашэння надзённых сацыяльных і нацыянальных праблем толькі рэвалюцыйным шляхам. Навагрудскі павет, хоць і ўваходзіў у склад Мінскай губерні, з самага пачатку паўстання быў падначалены паўстанцкаму кіраўніцтву Віленскай губерні. З аднаго боку, гэта абумоўлівалася цеснымі сувязямі Навагрудскай рэвалюцыйнай арганізацыі непасрэдна з ЛПК у Вільні, з другога — Навагрудскі павет знаходзіўся бліжэй да Вільні, чым да Мінска, межаваў з Віленскай губерняй, што забяспечвала зручнасць зносін.

У Навагрудскім павеце, як і ў іншых паветах Віленскай губерні, яшчэ напярэдадні паўстання склалася дакладная структура нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі. Яе кіруючым органам быў павятовы камітэт на чале з камісарам У. Борзабагатым. У склад камітэта ўваходзілі цывільны начальнік, ваенны начальнік, рэферэнты па фінансах, зямельных справах і інш. Тэрыторыя павета падзялялася на акругі, акругі — на прыходы. Кіраўнікі, што ўзначальвалі кожнае падраздзяленне, мелі памочнікаў на выпадак правалу.

У канцы студзеня 1863 года У. Борзабагатага наведаў ваенны начальнік Віленскай губерні Ф. Віславух, які сябраваў з яго братам Іосіфам. Абодва сябры напярэдадні паўстання пакінулі медыцынскі факультэт Кіеўскага універсітэта. Госць на працягу некалькіх дзён знаёміўся з падрыхтоўкай паўстання, вывучаў мясцовасць.

У лютым 1863 года ў Вільні адбыўся пераварот. Групоўка "белых", незадаволеная ўзмацненнем уплыву Кастуся Каліноўскага і яго курсам на ўзброенае паўстанне, захапіла ўладу. Замест ЛПК быў створаны Аддзел кіравання правінцыямі Літвы, які ўзначаліў памешчык Я. Гейштар. Сваім дэкрэтам ад 27 лютага 1863 года "белы" аддзел адмяніў усе паўнамоцтвы і мандаты, што ўручыў ЛПК. Ва ўсе губерні і паветы былі прызначаны новыя камісары для кантролю за дзейнасцю ваенных і цывільных улад.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

**(Працяг будзе).**

# «РУССКОМУ ГОЛОСУ» — НАШЫ ВІНШАВАННІ!

80 гадоў таму выйшаў першы нумар "Русского голоса", прагрэсіўнай газеты суайчыннікаў у Злучаных Штатах Амерыкі. "Русский голос" — гэта голас тысяч рускіх, беларусаў, украінцаў, якія яшчэ на пачатку стагоддзя вымушаны былі пакінуць Бацькаўшчыну і выехаць за мяжу ў пошуках кавалка хлеба або па палітычных матывах. Газета заўсёды служыла ідэалам дабра і справядлівасці, змагалася за ўзаемаразуменне паміж народамі і мірнае суіснаванне. Многа было цяжкасцей на шляху станаўлення "Русского голоса", але нават у самыя цяжкія часы ён не здраджваў прынцыпам, якія на самым пачатку былі пакладзены ў падмурак яго дзейнасці.

У час другой сусветнай вайны, калі наша краіна змагалася з фашысцкай Германіяй, чытачы "Русского голоса" сабралі дзесяткі тысяч долараў, адзенне і прадукты і адправілі ў дапамогу тым, каго абяздоліла вайна, хто праліваў кроў на франтах. Потым гэтыя самаахвярныя людзі збіралі грошы, дапамагаючы аднаўляць разбураную вайной гаспадарку. У 1947 годзе было адпраўлена 25 тысяч долараў на аднаўленне ў Мінску універсітэта, знішчанага ў час вайны.

З гісторыяй "Русского голоса" неразрыўна звязана імя Віктара Яхантава, які многа гадоў быў яго рэдактарам. Менавіта ён у пачатку 60-х гадоў прывёз на Радзіму, у тым ліку і ў Мінск, першую групу землякоў. Для іх гэта была першая сустрэча амаль праз паўвека з роднай зямлёй, са сваякамі, са сваім мінулым.

У стварэнне газеты, ва ўмацаванне сувязей паміж краінамі, у якой яны нарадзіліся, і той, дзе давялося жыць, вялікі ўклад унеслі выхадцы з Беларусі, шчырыя патрыёты сваёй Бацькаўшчыны Канстанцін Радзій, Уладзімір Мінкевіч, Аляксандр Смалей, Фрэд і Вольга Клімовічы і іншыя. Многіх ужо няма ў жывых, але жыве іх справа, жывая памяць пра самаадданых і ахвярных людзей, якія не шкадавалі сіл дзеля агульнай справы. Сімвалам гэтай справы можна назваць помнік Янку Купалу ў Араў-парку.

Мяняюцца часы, мяняецца знешні выгляд газеты, сутнасць жа яе застаецца ранейшай. "Русский голос", як заўсёды, інфармуе сваіх чытачоў аб падзеях, што адбываюцца на абшарах былога Савецкага Саюза. Значнае месца адводзіцца інфармацыі з Беларусі.

Газета нашых землякоў у Злучаных Штатах па-ранейшаму прыходзіць у рэдакцыю "Голасу Радзімы", і мы з цікавасцю яе чытаем.

З нагоды слаўнага юбілею ўсе супрацоўнікі "Голасу Радзімы" і таварыства "Радзіма" шчыра вітаюць калектыў газеты "Русский голос". Жадаем вялікіх поспехаў у высакароднай справе. Жадаем усім здароўя, шчасця і дабрабыту.

## ЦЭРКВЫ СЦЯПАНА СТАСЮКА



**Больш за дзесяць мініяцюрных цэркваў упрыгожваюць кватэру аператара запраўвачнай станцыі калгаса "Чырвоны партызан" Маларыцкага раёна, жыхара вёскі Лукава Сцяпана Стасюка. Адны з іх зроблены, дзякуючы фантазіі аўтара, іншыя паўтараюць вядомыя храмы. А зроблена гэтая прыгажосць са звычайных запалак, без адзінай склейкі, без адзінага цвічка. Запалкі акуратна падганяюцца адна да адной, злучаючыся галоўкамі. Напрыклад, копію брэсцкай Свята-Нікольскай царквы майстар рабіў тры месяцы, і на яе выраб пайшло каля чатырох тысяч запалак.**

**НА ЗДЫМКУ: С. СТАСЮК у сваёй хатняй "архітэктурнай" майстэрні.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

# ГРОДЗЕНСКІЯ «ХРОНІКІ»

Перыядычны друк ва ўсе часы быў дакладным барометрам грамадскай думкі, палітычнай сітуацыі, узроўню культуры і, безумоўна, фактарам уздзеяння на ўсе сферы чалавечага жыцця. З'яўленне і распаўсюджванне радыё ў першай чвэрці XX стагоддзя — канкурэнта на рынку інфармацыйных паслуг, а таксама сур'ёзныя геапалітычныя змены падштурхнулі прэсу шукаць новыя шляхі вырашэння задач, дыктуемых часам. Працэсы гэтыя асабліва характэрныя для міжваеннай II-й Рэчы Паспалітай, што перажывала станаўленне дзяржаўнасці ў новых межах і рабіла шматлікія спробы інтэграцыі сваіх земляў.

Адным з каштоўнейшых набыццяў Польшчы 20-х быў Віленскі рэгіён, які ўключаў у сябе Вільна, Беласток, Брэст і Гродна. Ва ўзнікшай сітуацыі для РП неабходны быў максімум аб'ектыўнай інфармацыі з "крэсаў усходніх", як і максімум магчымасці ўздзейнічаць праз друк на шырокае кола чытачоў. У пачатку 20-х гэты фактар адыграў немалаважную ролю ў павелічэнні колькасці выданняў, іх распаўсюджванні ў гарадах і асабліва — у сельскай мясцовасці. Уздым выдавецкай справы працягваўся аж да 1926—1927 гадоў, пакуль рэакцыйныя тэндэнцыі ва ўнутранай палітыцы канчаткова не задушылі наўрадавую радыкальную прэсу.

Пануючай мовай прэсы таго часу, безумоўна, была польская. Асабліва яркім прыкладам таму можа служыць Гродна, дзе ў 1930 годзе на 17 выданняў — 14 выходзіла на польскай мове. Большасць новых выданняў у 20-я і 30-я гады ледзь выжывалі на працягу года-двух... Прычына не толькі ў эканамічнай нестабільнасці, але і ўнутрыпалітычных рэаліях таго часу, калі ва ўрада адсутнічала якая-небудзь выразная палітычная канцэпцыя па нацыянальнаму пытанню ўвогуле і ў галіне прэсы нацыянальных меншасцей, у прыватнасці.

Адным з паказальных выданняў у многіх сэнсах можа быць "Хроніка г. Гродна", два нумары якой аўтару пашчасціла адшукаць у сапраўды "залатых" залежах Гродзенскага дзяржаўнага архіва. Адначасова са з'яўленнем "Хронікі" ў 1928 годзе стала выходзіць штодзённая яўрэйская газета "Унзер Гроднер Экспрэс" разам з ужо існуючымі "Рэдута" (перыядычнасць выхаду — раз у два тыдні), "Гроднер Штыме".

Рашэнне аб пачатку выдання "Хронікі" было прынята 20 студзеня 1928 года на пасяджэнні магістрата (прэзідэнтам якога тады з'яўляўся Рагалевіч). Побач з "Хронікай" Статыстычнаму аддзелу было даручана таксама выдавецтва "Пшэглёнду Статыстычнэго м. Гродна" на 1924, 1925 і 1926 гады, абапіраючыся на вопыт па складанню аналагічных выданняў за 1922 і 1923 гады. І тое і іншае выданні, па задуме заснавальнікаў, павінны былі выходзіць тыражом 300 экземпляраў, фарміраваца накштальт "Хронікі Варшавы" (орган сталічнага магістрата), прысвячацца дзейнасці самакіравання, розным аспектам жыцця горада і яго гісторыі з штоквартальнай перыядычнасцю. І магістратарскае выдавецтва, і рэдактар-рэферэнт Статыстычнага аддзела С. Калецкі паспелі да прызначанага тэрміну выхаду з друку: "неадкладна", "не пазней 30 красавіка".

20 красавіка 1928 года выйшаў першы нумар часопіса з каляровым друкам, мноствам ілюстрацый і рэкламных аб'яў.

Рэдакцыя даволі прывабна акрэсліла пастаўленыя перад новым выданнем задачы, што абапіраліся на гісторыю і традыцыі гэтых месцаў, "прасякнутых духам Тызенгаўза і Ажэшкі": асвятленне пытанняў дзейнасці мясцовай адміністрацыі, падзей горада, здарэнняў, якія маглі б "сведчыць" аб ідэалах, прыхільнасцях грамадства, яго пачынаннях у вырашэнні праблем, якія закранаюць "народ і панства".

Першыя ж старонкі квартальніка былі адведзены пад кароткую гістарычную інфармацыю аб Гродне, а таксама даследаванні вядомага краязнаўцы Я. Іадкоўскага "Гродна і наваколлі на пачатку гісторыі Літвы, Расіі над Нёманам" (прысвечаныя ў асноўным XII і XV стагоддзям). Большую частку выдання займаюць статыстычныя матэрыялы, у тым ліку падрыхтаваная рэдактарам часопіса справаздача аб дзейнасці органаў мясцовага самакіравання ў Гродне за 1919—1921 гады, статыстычны аналіз колькасці жыхароў у пасляваенныя гады (1921—1927 гады), падрыхтаваны Ежы Хенрыхам.

Статыстыцы прысвечана ўся другая частка выдання, у тым ліку па раздзелах: метэаралогія, дэмаграфія, цэны, беспрацоўе, камунікацыі, аперацыі банкаўскія, злачыннасць, падаткі, абароты гарадской касы, тут жа апублікаваны Праект Статута (Статыстычнага аддзела) у Гродне.

У першы выпуск увайшоў таксама матэрыял аб гродзенскім тэатры, пералік рыначных цэн на тавары народнага спажывання, а таксама 38 рэкламных модуляў па розных сферах камерцыйнай дзейнасці. Дарэчы, развіццё рэкламы на старонках прэсы цалкам магло б стаць прадметам асобага даследавання, таму што менавіта рэклама, як і асаблівасці яе падачы, маглі б служыць выдатнай адпраўной кропкай да разумення працэсаў, што адбываліся тады ў эканамічным і грамадска-культурным жыцці. Такім чынам, у 1-м нумары "Хронікі" рэкламадаўцы давалі ў асноўным даволі вялікія аб'явы (9x13 сантыметраў), у якіх варта адзначыць адпрацаванасць і дакладнасць макетаў, забяспечаных у некаторых выпадках нават лагатыпам. Аб'явы заключаны ў разнастайныя і мудрагелістыя рамкі, якім маглі б пазайздросціць і нашы сучасныя выданні.




Другі нумар "Хронікі" захаваў агульную накіраванасць выдання, але выйшаў ужо пад рэдакцыяй Рамана Савіцкага, праўда, у крыху меншым аб'ёме і, на жаль, са спазненнем — толькі 31 кастрычніка (г. зн. амаль праз паўгода пасля выхаду першага нумара). У другім выпуску часопіса надрукаваны працяг артыкула "Насельніцтва горада Гродна ў 1921—1927 у святле статыстычнага аналізу". Тут традыцыйна адведзена шмат месца статыстычным даным па электрастанцыі, водаправоду, ламбардах, бойні, хворых, бібліятэках, школах, тэатру, прыватнаму будаўніцтву, пажарнай справе, зняволеных у турмах. Дзевяць старонак прысвячалася спецыяльна выбарам у гарадскі Савет у 1927 годзе: надрукаваны спісы складу Галоўнага Выбарчага Камітэта, межы і склад дзесяці акруговых выбарчых камітэтаў горада Гродна, а таксама спісы кандыдатаў па партыйнай прыналежнасці (дарэчы, большасць з іх — яўрэйскія, беларусы ж выступалі ў блоку з рускімі).

У плане пераваг статыстыкі не выключэннем быў і перадавы артыкул "Неабходнасць складання рэгулярнага плана горада Гродна" (г. зн. нібы перспектыўнага плана развіцця горада), у якім узнімалася праблема вялікіх тэмпаў прыросту насельніцтва горада і звязаных з ёю пытанняў бытавога забеспячэння, падтрымання санітарных норм, развіцця камунікацый, будаўніцтва і г. д. Падрабязней аб арганізацыі кантролю над гандлем прадуктамі харчавання — наступны артыкул З. Цыбульскага, дарэчы, аформлены фатаграфіямі выдатнай якасці.

Па форме падачы рэкламы другі нумар "Хронікі" крыху саступае першаму: камерцыйныя аб'явы знялі са старонак вокладкі і іх плошча скарацілася амаль удвая (20 штук).

Часопісу, падобна многім выданням таго часу, у тым ліку і афіцыйным, не наканавана было доўга праіснаваць (вядома, што ў 1930 годзе ён ужо не выходзіў): чарговая спроба ўладаў займець свой канкурэнтаздольны друкаваны орган пацярпела фіяска. Але для нашчадкаў ён з'яўляецца не толькі каштоўнай гістарычнай крыніцай, але і ў многім — наглядным вучэбным дапаможнікам па арганізацыі перыядычнага выдання і рэкламы.

**Вольга КАРАНЕЎСКАЯ.**

FABR. WYROBÓW BETONOWYCH i TEKTURY SMOŁOWCOWEJ „BUDOMAT" N. KLEMPNER. GRODNO

**N. KLEMPNER**

GRODNO, ul. Horodniczańska Nr. 3.

**SKŁADY:**

**Grodno, Mieszczańska 1, w podwórzu.**

**141 Telefon 141.**

**Polecam ze składu i WAGONOWO, wprost z reprezentowanych przezemnie fabryk**

Wapno. Kredę. Cement. Blachę. Tekturę smołowcową (własnego wyrobu z fabr. „Budomat"). Smołę. Gips. Cegłę zwyczajną i ogniotrwałą. Węgiel opałowy i kowalski. Wanny lane emaljowane. Rury wodociągowe i zlewne. Krany. Umywalnie fajansowe. Miski klozetowe.

**Wyroby betonowe:** (z własnej fabr. „BUDOMAT„)

Cembrowiny do studni. Rury kanalizacyjne. Przepusty mostowe. Płyty chodnikowe. Dachówki. Pustaki do budowy domów i inne. Różnokolorowa posadzka cementowa, mimo swej wytrwałości i wykwintności, jest tańszą od drewnianych podłóg, praktyczna do układania w kościołach, sklepach, kuchniach, koszarach, szpitalach, szkołach, kurytarzach, sieniach i t. d.

KONCE N NAFTOWY „PREMIER"

TOWARZYSTWO **„OLEUM"** SP. Z O. ODP.

OLEUM

ODDZIAŁ W GRODNIE

Biuro: Hoowera 8, tel. 140
Skład: Jagiellońska 14, tel. 188

*Nafta — Benzyna — Olej gazowy — Parafina*

*OLEJE MASZYNOWE — OLEJE SPECJALNE — SMARY — ASFALT*

*Caroil*

*PIERWSZORZĘDNE OLEJE SAMOCHODOWE*

Zakłady Graficzne L. Majlerhowicza, Grodno, ul. Horodniczańska 3.

# ЧАС АБУДЖЭННЯ, ЧАС НАРАДЖЭННЯ

Паэту Ганаду Чарказяну, па нацыянальнасці курду, які жыве і працуе ў Мінску, споўнілася пяцьдзесят гадоў. Піша ён на роднай курдскай мове. Кнігі выдаюцца па-руску і па-беларуску.



Ёсць у Ганада Чарказяна цыкл вершаў з прысвячэннем Васілю Быкаву — "Час абуджэння, час нараджэння". Пераказваць вершы — няўдзячны занятак. Слова — Ганаду Чарказяну і яго беларускаму талмачу-перакладчыку Але Канапельцы:

**Прыйдзе вясна...**
**Я вярнуся дамоў,**
**Каля старэнькіх дамоў**
**Мяне найласкава прывецяць**
**Цёплыя промні і вецер.**
**Вуліцы ўсе басанож**
**Зноўку змагу асцярожна прайсці,**
**Каб знайсці**
**Мінулых дарог і наступных**
**Пачатак жывы, неадступны,**
**Струменьчык рачулкі,**
**Празрысты, глыбокі, —**
**Лёсу майго вытокі.**

Такі пачатак у твора, які адрасаваны найперш пісьменніку-франтавіку, пісьменніку-праўдашукальніку, пісьменніку-дэмакрату. "Прыйдзе вясна... Я вярнуся дамоў..." Якія чаканні-спадзяванні звязаны ў паэта з вясною? Чаму — фактычна з Быкавым, пасля ўжо з чытачом увогуле — вядзе свой дыялог Ганад Чарказян пра вясну, пра "час абуджэння, час нараджэння"? Ужо таму, што растае снег, бягуць ручаінкі, шырацць свае пратокі. Як і Беларусь. Доўгі і пакутны яе шлях-сцяжынка выходзіць на прастору. Беларусь-пакутніца — другая Айчына Ганада Чарказяна. А першая? Арменія, дзе нарадзіўся паэт? Альбо не існуючая ў прыродзе курдская дзяржава? Хаця чаму ж неіснуючая? Часам духоўнае вымярэнне стварае не меней трывалыя межы, чым матэрыялізаваныя драўляныя, калючачужыя пагранічныя слупы, хіба ж не так? Сорак мільёнаў курдаў раскідана па свеце. Велізарная сіла. Агромністы растучы нацыянальны патэнцыял. І ўсё ж, і ўсё ж... Баліць курдскаму паэту душа за свой народ, за яго страты. І Ганад Чарказян піша пра свой уласны боль, пра суперажыванне з братамі і сёстрамі па нацыі. Паэт не можа, не павінен быць палітыкам. Гэта калі гаварыць пра манеру паводзін, дэкларатыўную публіцыстычнасць. Іншая справа, што паэт павінен, абавязаны быць палітыкам у сцвярджэнні, адстойванні нацыянальнага. Бо тут — і культура, і мова, і духоўны свет.

З'яўляючыся (як паэт) курдскім нацыянальным палітыкам, Ганад Чарказян — творца настойлівы, рашучы, цвёрды. Настойлівы і рашучы (мо ў нечым прычынай з'яўляецца прафесія будаўніка, якой паэт аддаў доўгія гады жыцця) у адстойванні сваёй лініі. А яна — грамадзянска-лірычная лінія — увабрала ў сябе і выразную байцоўскую заклапочанасць лёсам Беларусі. Курды не маюць, не набылі дзяржаўнасці, межаў, трывалай прасторы — дык вы ж глядзіце, думайце, разважайце, углядаючыся ў далёкае і блізкае чужога народа. Вы, беларусы, не згубіце! Ён, Ганад Чарказян, думае пра Беларусь і верыць у яе зорку. Нават верыць і за нас, стомленых песімізмам, у многіх спадзяваннях расчараваных.

Ганаду Чарказяну пашчасціла на літаратурных настаўнікаў. Ці не першым прывеціў курдскага паэта Пятрусь Броўка. Ён жа напісаў прадмову да першай кнігі Ганада. Сталы перакладчык паэзіі курдскага сябра — Рыгор Барадулін (ён жа і аўтар прадмовы да зборніка "Цвет дабраты"). Пра творчасць Ганада Чарказяна пісалі Васіль Быкаў, Алег Лойка. Хіба ж можна мець хаця б нейкія сумненні адносна іх літаратурных, мастацкіх слыху і густу? Алег Лойка, у прыватнасці, такім чынам адзначыў творчыя, жыццёвыя шуканні курдскага майстра слова: "Кніга паэзіі Ганада Чарказяна названа кароткім, але шматзначным і ёмістым словам "Плач". Чалавек, прыходзячы на свет, пра сябе адразу заяўляе плачам. Пад плач, пад галашэнне пакідае гэты свет. Па традыцыі плачам адганялі злых духаў, плачам папярэджвалі бяду, апярэджвалі гора. Плач, так бы мовіць, жанр народнае творчасці і аўтарскай літаратуры. Згадаем славутыя "Плачы" Федэрыка Гарсія Лоркі. І далей: "Над светам, над Беларуссю, над дрэвам і галавой вісіць цень сякеры страху і адчаю, сякеры звадаў і зайдрасці, сякеры Чарнобыля і Курапатаў. І раздзел, дзе вершы Ганада Чарказяна гучаць па-беларуску, так і называецца "Цень ад сякеры". А раз ёсць цень, ёсць і сякера. І пра што б ні пісаў паэт: пра далёкі бацькоўскі дом, пра маці ці пра тую, хто зімовы дзень веснавым робіць, — помніць пра гэты цень, бо жывём мы ўсе напрыканцы другога тысячагоддзя".

Паэзія Ганада Чарказяна ўжо і беларуская паэзія. Шчырыя, праніклівыя радкі курда народжаны ўсё ж на Беларусі, пад уплывам нашай нацыянальнай касмічнай дзялянкі. І аўтар "Плачу", іншых цудоўных вершаваных зборнікаў удзячны зямельцы, што стала яму другой Айчынай.

**Прывітанне, Беларусь!**
**Зраненая зямля,**
**Высокія сосны,**
**Самотныя воды,**
**Плакучыя вербы...**
**. . . . . . . . . .**
**Верую ў промень надзеі**
**На выратаванне...**
**Прывітанне, мая Беларусь,**
**Прывітанне!**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



**"Крынічанька" — так называецца вакальны калектыў Глускага раённага Дома культуры. Існуе ён каля чатырох год, за гэты час змяняўся яго састаў, аднак званне народнага пацверджана і сёння. Цяпер вакальным калектывам кіруе выкладчык мясцовай музычнай школы Алег ПАГАРЖЭЛЬСКІ (на здымку ў цэнтры), а ў рэпертуары з'явіліся новыя песні самадзейных кампазітараў.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*ЛІТАРАТУРНАЯ ПАЛІТРА*

# ТРЫЛОГІЯ АСЭНСАВАННЯ, або ВЯРТАННЕ СЭНСУ

Літаратура — гэта, напэўна, тады, калі бярэш — і чытаеш! Зусім не зважаючы ні на тое, дзе ты знаходзішся — на вуліцы, у хаце, у цягніку, — ні на тое, што творыцца вакол цябе.

Не зважаеш таму, што рэальнасць мастацкага слова такая моцная і такая пераканаўчая, што адольвае рэальнасць жыццёвых праяў. І калі так здараецца, то, напэўна, можна смела сказаць, што ты сустрэўся нарэшце з сапраўдным творам, з сапраўднай літаратурай, а не яе падробкай, — з творам, які ў адно імгненне абуджае твае пачуцці і думкі — нібыта добры верш ці музыка, — і абвастрае іх да такой ступені, што ўсё астатняе ў рэальным свеце губляе на гэты момант сваё значэнне.

Якраз гэтак я чытаў чарговую публікацыю Алеся Наварыча ў часопісе "Крыніца" (№ 20, 1996). Як паведаміла рэдакцыя на старонцы 111, першая частка "рабунькавай" трылогіі друкавалася ў № 16 і чакаецца яе заканчэнне. Зразумела, было б цікава пазнаёміцца і з трэцяй (напэўна, заключнай) часткай, але нават і тыя дзве, што былі надрукаваны, даюць падставу для нашай гаворкі.

Не зусім згодны з рэдакцыяй, якая выдзеліла двукоссем слова "рабунькава". Ці не лепей было б выдзеліць іншае слова — "трылогія"? Бо калі мы прамаўляем ці бачым апошняе, то ўяўляем перш за ўсё таўшчэзныя тамы ў каштоўным пераплёце ды з залатым цісненнем на вокладцы, а тут — усяго апавяданні (прыкладна на 10—12 старонках) і — бач ты! — ужо трылогія!

Хіба гэта не здзек?! Самы натуральны! Дык мо рэдакцыя памылілася, паставіўшы двукоссе не на тым слове? Мне здаецца, што яна проста не хацела падліваць масла ў агонь, падштурхваючы чытача да літаратуразнаўчых спрэчак, а дазволіла яму самастойна вызначыць, здзек гэта ці не. І чытач апраўдаў гэты давер: зразумеў, што здзекуюцца не з яго, а з былой літаратурнай пампезнасці, якая, дзякуй Богу, адышла ў нябыт (іранічная рэдакцыя мае права выказваць сваю іронію нетрадыцыйна — г. зн. амаль неіранічна).

Але пры ўсім тым яна мела рацыю не ўжываць двукоссе, бо, напэўна, здагадвалася, што тут мы сапраўды маем трылогію (пры той умове, што будзе надрукавана і трэцяя яе частка), але не ў сэнсе агульнавядомага спалучэння трох асобных, самастойных твораў, звязаных адным героем і адной тэмай, а штосьці якасна новае, што я дазволіў бы сабе вызначыць як "трылогію асэнсавання". Запомнім гэта азначэнне (мы вернемся да яго крыху пазней), а цяпер пагаворым пра сам твор.

Першая яго частка, з'явіўшыся ў "Крыніцы", бачылася тады зусім асобным творам, які — ні сваёй будовай, ні зместам — не даваў падстаў разлічваць на якісьці працяг. Але сцяжынкі творчасці заўжды неспасцігльныя — як і сцяжынкі Боскія, — і нам застаецца адно дзякаваць такой прыемнай акалічнасці.

Дарэчы, некалькі слоў пра "Крыніцу" — напэўна, адзіны на Беларусі часопіс, які заслугоўвае самай пільнай увагі і паважлівага да яго стаўлення, бо, па-першае, змяшчае на сваіх старонках не толькі найлепшыя творы сусветнай літаратуры (зразумела, у перакладзе, і дадамо — вельмі якасным!), ствараючы тым самым своеасаблівую канкурэнцыю "Нашай ніве" (канкурэнцыя — калі яна разумная, — рэч, як бачыце, карысная!); па-другое, не толькі адкрывае нам (а лепей — вяртае!) нібыта знаёмыя, але ў сапраўднасці новыя (прачытаныя дапытлівым і цвярозым вокам) старонкі нашай гісторыі і літаратуры; і трэцяе, самае галоўнае! — рэгулярна, з нумара ў нумар, знаёміць нас з лепшымі дасягненнямі сучасных празаікаў і паэтаў.

Але — бліжэй да Алеся Наварыча. Першая частка трылогіі пра Рабуньку — пра самую звычайную карову, якая валодала незвычайнымі здольнасцямі — умела гаварыць і мысліць не горш за нас з вамі, шаноўныя чытачы, — выклікала цікавасць даволі рэдкім літаратурным прыёмам, пабудаваным на алегорыі, якая, праўда, лёгка прачытвалася і лёгка адгадвалася, аднак гэта не псавала твор, бо ўгадваў сам чытач, трохі ўжо адвучаны ад "лёзунгаў" ці прымітыўна-безгустоўнай прамалінейнасці. Пры некаторай зацягнутасці канцоўкі і відочнай спалітызаванасці ўсяго апавядання цалкам яно чыталася лёгка і з вялікай цікавасцю, бо давала адказ на многія пытанні, якія хвалявалі і хвалююць беларускае грамадства менавіта на сённяшнім этапе яго нага развіцця.

Другая частка — "Дзённікі Рабунькі" — была яшчэ большай нечаканасцю: здавалася б, што можна напісаць яшчэ пасля "Прыгодаў Рабунькі" — па-майстэрску зробленага апавядання, дзе прысутнічае і іронія, і здзек, і роздум, і шчырая трывога за лёс нашай краіны, — у апавяданні ёсць усё!

Але Алесь Наварыч не спыніўся на гэтым — ён пайшоў далей: калі ў "Прыгодах" ён смяяўся сам, і гэта было даволі адчувальным, то ў "Дзённіках" мы бачым ужо іншага Наварыча, які дазваляе смяяцца не толькі сабе, але — і найперш! — чытачу! І гэта новая якасць лепш за ўсё сведчыць пра творчы рост аўтара. Па сутнасці, мы маем у "Дзённіках" адну з першых і адну з вельмі інтэлігентных спроб беларускай літаратуры сказаць праўду мякка і далікатна — не ў лоб і нібыта незнарок — як гэта да нас рабілі сапраўдныя майстры гэтага роду мастацтва ўсіх вякоў і народаў.

Смех аўтара ў "Дзённіках" — прыглушаны, нібыта між іншым, нібыта зусім неістотны — проста як паветра, якім дыхаеш, але пра якое ўжо не думаеш, бо даказваць яго жыццёвую неабходнасць для чалавека ні ў кога не ўзнікне думкі. А вось смех чытача, які знаёміцца з "Дзённікамі", — гэта ўжо нешта іншае: гэта — як рух таго ж самага паветра — ці то ў выглядзе ледзь адчувальнага павеву ветрыку, ці то ў выглядзе шалёнага, знішчальнага ветру — усё залежыць ад эмацыянальнага стану чытача і ад асаблівасцяў яго псіхічнага складу. І калі ў пачатку другой часткі мы проста "дыхаем", як гэта звычайна адбываецца пры чытанні таго ці іншага твора, то ўжо дзесь бліжэй да сярэдзіны "Дзённікаў" мы пачынаем адчуваць, што "дыхаць" — у сэнсе "жыць" — немагчыма, умоўна кажучы, не без паветра — без літаратурнага твора, — а без "руху" гэтага "паветра" — таго самага ласкавага дотыку або віхурнага подыху, — карацей, без таго, што і робіць нас людзьмі — **без суперажывання,** выкліканага эмоцыямі, укладзенымі аўтарам у ягоны твор.

І тое, што беларускі чытач — ды і ўвогуле беларус, як адзінка этнасу, — атрымаў магчымасць "дыхаць" тым, чаго яму заўсёды так не хапала, — сапраўднымі пачуццямі сапраўднай літаратуры, — з'ява не толькі адметная, але і вельмі важная, бо якраз з гэтага моманту пачынаецца новы адлік у працэсе росту свядомасці беларуса: з сярмяжнага прадстаўніка невядома якой краіны — ці ўскраіны невядома якой імперыі — ён робіцца чалавекам Свету, бо атрымаў-такі тое, што даўно мелі іншыя народы — з большай культурай (большай — па магчымасцях замацавання яе дасягненняў у тых ці іншых творах мастацтва).

І гэты бясспрэчны факт сведчыць найперш пра тое, што беларуская літаратура губляе (нарэшце!) сваю заўсёдную правінцыяльнасць і паціху (але будзем спадзявацца, што назаўсёды) пазбаўляецца комплексу непаўнацэннасці, уласцівага нацыям ці асобам, якія не здолелі рэалізаваць сябе.

Тое, што пісалася на Беларусі раней (у тым ліку і Алесем Наварычам), — калі мець на ўвазе не вяршыні літаратуры, а яе, кажучы па-руску, "усредненную" частку, — не заўсёды мела сапраўдныя мастацкія вартасці і нагадвала хутчэй за ўсё больш-менш удалыя "агіткі" Маякоўскага (не забудзьма, што любы твор — незалежна ад волі аўтара — гэта тая ці іншая ідэалогія), і лабавое рашэнне праблемы ў гэткіх творах было, бадай, адзіным "мастацкім" прыёмам, якім карысталіся аўтары, але ўздзеянне ад гэтых "агітак" абмяжоўвалася, як мы неаднойчы пераконваліся, тэрмінам аднаго дня, добра, калі тыдня. "Агіткі" ж Наварыча — калі прымальна ўжыць такое азначэнне для апошніх яго твораў — зусім іншыя: уздзеянне ад іх разлічана не толькі на сёння (хаця — найперш! — і на сёння), але і на потым — на таго чытача, які будзе знаёміцца з творам праз дзесяцігоддзі, калі не болей. Што гэта азначае?

Гэта азначае, што Алесь Наварыч, як мастак, асэнсоўвае сваю задачу і вырашае яе не на тым прымітыўна-пачатковым узроўні, калі аўтара задавальняюць проста апладысменты — проста натоўпу (у нашым выпадку гэта ўсе тыя, хто называе сябе "народ беларускі", які таксама жадае апладысментаў — у свой адрас — толькі невядома за што), Наварыч глядзіць на сваю задачу шырэй і нават не ў кантэксце еўрапейскай культуры — гэтага было б замала і, можа, нават даволі проста, — а ў кантэксце **сусветнай** культуры. І такое стаўленне да сябе і да свайго прызвання падаецца мне адзіна магчымым і найбольш натуральным, бо, па-першае, адпавядае сутнасці такога паняцця, як пісьменнік, а, па-другое, ператварае заўсёдную "жабрачку", якой, напэўна, і дагэтуль адчувае сябе беларуская літаратура, у прынцэсу ці каралеву — у роўную сярод роўных! — што можна толькі вітаць.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

## *НАВУКОВЫ ПОШУК*

# У ДАБРАЎЛЯНАХ, ПРЫСТАНКУ МУЗ, У 1863 ГОДЗЕ...

Чыйго толькі прозвішча няма ў гэтых штамбухах! Сухадольскі і Арлоўскі, Манюшка, Вяняўскія, Концкі Антон, Сыракомля, Ходзька, Дэатыма... — сапраўдны пантэон сучасных знакамітасцяў на полі літаратуры і мастацтва. А побач з імі імёны ўсіх дзядуляў і бабуль мноства літоўскіх панскіх і шляхецкіх сем'яў".

Старшая сястра Габрыелі Мацільда (1811—1867) таксама вылучалася выхаваннем і культурнымі інтарэсамі. У 1834 годзе яна выйшла замуж за Маўрыцыя Бучынскага, сына ўдзельніка касцюшкаўскага паўстання, уладальніка недалёкага ад Дабраўлян маёнтка Болькава. Сядзіба Бучынскіх маляўніча месцілася на гары над Свірскім возерам паміж Свір'ю і Засвір'ю. Назва маёнтка паходзіла ад імя аднаго з князёў Свірскіх, старадаўніх уладароў гэтых мясцінаў. Усё тут дыхала сівой мінуўшчынай, пераклікалася з моднымі рамантычнымі павевамі новага часу.

У 1846 годзе пакінула Дабраўляны, выйшла замуж сястра Іда. Яшчэ раней памерла маці. У Дабраўлянах асталіся стары Гюнтэр з Габрыеляй. Ч. Янкоўскі сведчыць: "Аднак Дабраўляны і віленскі салон дабраўлянскага дзедзіча зусім не страцілі звыклага ажыўлення, па-гаспадарску прымаць гасцей памагала сястры заўжды вынаходлівая, вясёлая, энергічная Бучынская". Пасля смерці мужа (1848) Мацільда і зусім вярнулася ў родныя Дабраўляны. У 1851 годзе бацька, як той кароль Лір, але з лепшым вынікам, яшчэ пры жыцці падзяліў сваё немалое "каралеўства" паміж дочкамі. Дабраўляны дасталіся Мацільдзе. Габрыеля зрабіла сабе асобную рэзідэнцыю непадалёку ў Нестанішках (назвала сваю новую сядзібу Патуліна). У сясцёр бывалі агульныя госці. Так было, напрыклад, з Сыракомлем. Ч. Янкоўскі цікава апісвае гасцяванне тут знакамітага паэта: "...у Патуліне прымала Габрыеля Сыракомлю. Прывёз яго туды з Вільні пасля сеймікаў Тадэвуш Пузына ўвосень 1855 года. Лірнік вясковы быў тады ў зеніце папулярнасці і поспеху, але нясмелы, нават дзікі пясняр літоўскі ледзьве паддаўся ўгаворам прыехаць. У Дабраўлянах вітала паэта Бучынская хлебам-соллю са словамі, што гэта за "Акраец хлеба", вітала пад дубам, упрыгожаным у гонар "Дэмбарога" аленевымі рагамі і шчытом з гербам Сыракомлі. Чакаў таксама падрыхтаваны для пасадкі малады клён; папрасілі госця, каб ён сам, уласнай рукой укапаў яго ў зямлю. Паэт у сваёй збянтэжанасці замест таго, каб узяцца за рыдлёўку, хапаў зямлю рукамі, кідаючы яе ў яму, але праз гэта дабраўлянскі клён стаўся яшчэ больш памятным". (Гэты шчымлівы, псіхалагічна дакладны эпізод, па ўсім, узяты Янкоўскім з другой — недрукаванай — часткі мемуараў Габрыелі).

Дзейнасць і вядомасць Мацільды, зразумела, ніяк не абмяжоўвалася дабраўлянскімі аколіцамі. У кнізе польскага даследчыка А. Мілера "Тэатр і музыка на Літве" (1936) салон Мацільды з графоў Гюнтэраў Бучынскай называецца ў ліку першарадных віленскіх тэатральна-мастацкіх асяродкаў сярэдзіны XIX стагоддзя. Але найбольш пані Мацільда праславілася як філантропка і ўдзельніца патрыятычнага руху пачатку 60-х гадоў.

"В конце 1859 года возвратилась в Вильну из Парижа виленская помещица Матильда Бучинская, имевшая в Вильне большой каменный дом напротив костела Малых Бусачек (Босачек. — **Г. К.**)", — так пачынае ў сваіх успамінах расказ пра адметную старонку жыцця, можна сказаць, духоўны ўзлёт немаладой ужо пані Мацільды добра (хоць і аднабакова) інфармаваны чыноўнік Іван Нікоцін. Гэты сюжэт няшчадна эксплуатаваўся ці не ўсімі тагачаснымі рускімі мемуарыстамі, афіцыёзнымі гісторыкамі паўстання 1863 года, закрануты ён нават у запісках самога Мураўёва-вешальніка.

Аніяк не можам абмінуць гэты сюжэт і мы, паспрабуем асвятліць яго па даступных крыніцах, па магчымасці ачысціўшы ад пэўнага налёту тэндэнцыйнасці.

Дык вось — падчас свайго замежнага падарожжа — у Парыжы Бучынская захапілася філантрапічнымі ідэямі, вешчуном якіх у сярэднія вякі быў вядомы французскі дабрачынец Вінцэнт Дэполь (1576—1660). Сын бедных гасконскіх сялян, ён яшчэ ў маладыя гады стаў святаром, быў захоплены марскімі піратамі і прададзены ў рабства. Пасля многіх нягодаў яму ўдалося вырвацца з нявол, уцячы на радзіму. Быў нейкі час духоўнікам і сакратаром Маргарыты Валуа (тая самая знакамітая каралева Марго). Сам удосталь хапіўшы ў жыцці ліха, Дэполь горача прапаведаваў міласэрнасць па ўсёй Францыі, звярнуўшы асаблівую ўвагу на лёс катаржнікаў. Кароль Людовік XIII і ўвогуле прызначыў яго духоўнікам каралеўскіх галер, апекуном самых няшчасных парыяў грамадства. Неўзабаве Дэполь паклаў пачатак кангрэгацыі місіянераў (пазарыстаў). Паводле статута кожны сябра кангрэгацыі мусіў весці місіянерска-філантрапічную працу ў вёсцы, навучаючы сялян, апякуючыся хворымі і рыхтуючы будучых вясковых святароў. Праз некалькі гадоў пры садзеянні ўдавы Луізы Легра нястомны ў сваім філантрапічным, чалавекалюбным імпэце Вінцэнт Дэполь заснаваў абшчыну сёстраў міласэрнасці, працаваў над рэфармаваннем жаночых кляштарных школ, зімой у сцюжу падбіраў на вуліцах Парыжа кінутых дзяцей, завёў прытулак для знайдзёнаў, багадзельню для старых і бальніцу для беднякоў. У разоранай, здратаванай рэлігійнымі войнамі, а потым зацяжной Трыццацігадовай вайной Францыі бяды і гора хапала, і Дэполь, як мог, стараўся памагчы шматлікім беднякам. Пра яго хадзілі легенды. За вялікае, поўнае міласэрнасці сэрца яго называлі "Упаўнаважаным Боскай волі". Дзіва што, народ пакланяўся яму, як нікому, а пасля смерці ён быў нават кананізаваны царквой, далучаны да ліку святых. Вось такі гэта быў чалавек. Справа яго жыцця не прапала, засталася ў вяках. У XIX стагоддзі пад яго імем сталі ўзнікаць новыя таварыствы міласэрнасці. Такія вось ідэі прывезла з Парыжа пані Мацільда. Падобна францужанцы Луізе Легра яна ўтварыла ў Вільні таварыства вінцэнцінак для дапамогі ўсім абяздоленым. Цікава, што ўлады, нягледзячы на атрыманае бласлаўленне касцёла, чамусьці не спяшаліся зацвярджаць статут таварыства, знаходзілі ўсё новыя і новыя бюракратычныя перашкоды, і Бучынская са сваімі паплечнікамі і паплечніцамі стала дзейнічаць на свой страх і рызыку. "...решилась самовольно открыть действия сказанного общества, причем принят был в руководство устав общества св. Викентия, напечатанный в Варшаве. В открытии общества не только принял самое деятельное участие виленский римско-католический епископ Красинский, но впоследствии жертвовал на него деньгами, участвовал в собраниях общества..." (Нікоцін). Факты падаюцца так, нібыта размова ідзе пра Бог ведае якую вялікую крамолу. (Дарэчы, і з біскупам Красінскім — чалавекам памяркоўным і вучоным — улады пасля моцна пасварыліся, і ён надоўга апынуўся ажно ў Вятцы).

Тут якраз надышоў 1861 год, і дзейнасць Бучынскай сапраўды набывала палітычнае адценне, хаця яе апазіцыйнасць аніяк нельга, відаць, перабольшваць.



Як вядома, моцным штуршком для тагачаснага ўздыму вызваленча-патрыятычнага руху паслужыў расстрэл царскімі ўладамі бяззбройнай дэманстрацыі варшавян у лютым 1861 года. Польшча, Літва, Беларусь апрануліся ў жалобу.

У вядомых запісках Масалова (там — і хрэстаматыйнае апісанне пакарання смерцю Каліноўскага) Бучынская характарызуецца як галоўная "распорядительница" нашэння жалобы ў Вільні. Не супярэчаць гэтаму і архіўныя дакументы. У свой час мне давялося гартаць у маскоўскім архіве ніштаватую па памерах жандарскую справу пра графа Тышкевіча. У ёй цікавы матэрыял пра абстаноўку ў Вільні ў гэты перыяд, як яна бачылася царскім уладам.

6 сакавіка віленскі генерал-губернатар Назімаў паведамляў у Пецярбург шэфу жандараў: "Варшавские происшествия отозвались и в Вильне заметным брожением умов, особенно между молодыми людьми и дамами высшего здешнего общества, которые, прекратив увеселения, заменили их трауром и перестали посещать театр и другие общественные собрания. В голове этих ажитаторов стал виленский уездный предводитель дворянства граф Иван Тышкевич, молодой человек весьма ограниченного ума, исполненный фанатизма, руководимый молодою своею женою и монахом бернардинского ордена, давним духовником покойной его матери, а ныне его самого. По предложению жены графа Тышкевича в прошлую среду 2 марта (у каталікаў быў якраз дзень памінання памёрлых. — **Г. К.**) большая часть этого общества съехалась в церковь (касцёл. — **Г. К.**) св. Иоанна (бывшую университетскую), где и совершена была заказанная оным заупокойная литургия и панихида по убиенным в Варшаве".

Вельмі хутка ў данясеннях з Вільні побач з Тышкевічамі стала мільгаць імя Бучынскай. Арыстакраты — як заўсёды ў крытычныя моманты — шукалі збліжэння з народам. "Тышкевич, — паведамляў жандарскі падпалкоўнік Адамовіч, — намеревался для разговин в пасху здешних бедных и ремесленников устроить у себя стол на 1 500 человек, подобно тому, как это имело место в последнюю пасху в Варшаве, о чем для совещания будто бы привозил в карете в свой дом старшину портных мещанина Каравая, представляя его своей жене, говорил о потребности уже сближения корпораций народа в одно целое и об отмене существовавшей до сего и вредящей этому делу прежней между классами народа церемонной этикеты". Улады насцярожыліся. Задуманы арыстакратамі грандыёзны абед братання з народам не быў дазволены.

У гэтым самым аспекце разглядалася ўладамі і філантрапічная дзейнасць Бучынскай. Уплывовыя чынушы, выпрабаваныя майстры бюракратычных пасьянсаў, бачылі і тут палітычную падкладку. 22 красавіка 1861 года Назімаў паведамляў у Пецярбург: "Помещица Матильда Бучинская раздавала денежные вспомоществования и продукты в низших классах народа, обязывая всех носить траур и отказывая тем, которые сего не делали". Тышкевічы і Бучынская былі высланы з Вільні ў свае маёнткі пад сакрэтны нагляд паліцыі. У спісе высланых па Віленскай губерні значыцца пад № 3 граф Іван Тышкевіч (маёнтак Вака пад Вільняй). Пад № 4: "Матьльда Бучинская. Помещица. Свенцянского уезда в собственное им. Дубровляны".

Цікава, што высакародныя філантрапічныя мэты таварыства вінцэнцінак прываблівалі і рускіх дам, жонак высокіх чыноўнікаў. Пазней Мураўёў-вешальнік зласловіў у сваіх запісках, што ўслед за жонкай генерал-губернатара Назімава ў таварыства запісалася большасць рускіх дам, а між тым пад гэтым прыкрыццём збіраліся грошы на мяцеж.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Мацільда ГЮНТЭР-БУЧЫНСКАЯ. Мініяцюра; пакой у дабраўлянскім палацы. Малявала адна з дачок А. ГЮНТЭРА.**



**Працяг.**
**Пачатак у №№ 5 — 6.**

# ГАЛІНКА З ДРЭВА ВЕЧНАСЦІ

**(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).**

чароўным вянком увесь зямны шар — прарасці цвятком радзімы васілька на ўсіх яго паралелях і мерыдыянах. Творчасць, у якой вялікая будучыня".

Не выпадкова ва унікальнай серыі "Беларускі кнігазбор", распрацаванай у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, знайшлося месца і тому М. Багдановіча. І нездарма кніга "Выбраныя творы" М. Багдановіча ў ёй стала другой пасля "Выбраных твораў" Я. Чачота, што пабачылі свет некалькі месяцаў назад.

Здавалася б, можна было б і пачакаць: усё ж нядаўна завершаны выпуск Збору твораў М. Багдановіча ў трох тамах, які выйшаў прыстойным тыражом. Тым больш, што ў планах "Беларускага кнігазбору" значацца выданні твораў многіх аўтараў, якія па сутнасці сучаснаму чытачу невядомыя.

Аднак М. Багдановіч не мог "чакаць". Бо, калі на добры лад, творы М. Багдановіча павінны быць у кожнай сям'і: у адных — шматтомнае выданне, у іншых — выбранае кшталту "Выбраных твораў", у трэціх — маляўніча афармленыя паэтычныя зборнікі невялікага памеру, кішэннага фармату. Але гэта, як кажуць, на перспектыву, а пакуль зроблены яшчэ адзін крок дзеля таго, каб кола чытачоў Максіма-Кніжніка пашырылася.

Кніга "Выбраныя творы" М. Багдановіча ўвабрала ў сябе ўсе найбольш значныя яго творы. Безумоўна, шмат месца займаюць вершы, пераклады і даследаванні. Аднак не абыдзены і проза пісьменніка, яго літаратурная крытыка, публіцыстыка, прадстаўлена эпісталярная спадчына.

Пры падрыхтоўцы твораў да друку (укладанне і каментарыі С. Забродскай, Э. Золавай, Т. Строевай, Л. Хрышчановіч, А. Шамякінай) быў выкарыстаны вопыт тых, хто працаваў над іншымі выданнямі спадчыны М. Багдановіча, у першую чаргу, зразумела, Збору яго твораў. Але прыняты пад увагу і набыткі выдаўцоў замежжа. Як вядома, у 1960 годзе выдавецтва "Бацькаўшчына" (Нью-Йорк-Мюнхен) выпусціла "Вянок паэтычнай спадчыны" М. Багдановіча пад рэдакцыяй А. Адамовіча і С. Станкевіча, у якое трапілі і невядомыя датуль матэрыялы з прыватных архіваў.

Адкрываецца том артыкулам Н. Гілевіча "Страцім-лебедзь" беларускай паэзіі", з якога і ўзяты прыведзены вышэй урывак. Акрамя таго ў якасці прадмовы прапануецца і артыкул дырэктара Літаратурнага музея М. Багдановіча А. Бяляцкага "Жыццёвая сцяжына паэта". Знайшлося ў кнізе і месца ілюстрацыйным матэрыялам. І ўвогуле яна цудоўна глядзіцца: серыйнае афармленне М. Казлова зроблена з густам, а паліграфічнае выкананне — выдатнае.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

*ФОТАВЫСТАВА*

# «ПА ТОЙ БОК БАНАЛЬНАСЦІ»

Сумна пісаць пра выставу, меркаванне журналістаў аб якой было вядома аўтару яшчэ да яе адкрыцця, пра што было напісана ў выдадзеным з гэтай прычыны буклеце:"Праект "Па той бок банальнасці" экспануе каля сотні фатаграфій Ігара Саўчанкі, якія ўяўляюць сабой банальныя, нічога не вартыя адлюстраванні, падпісаныя прэтэнцыёзнымі тэкстамі аўтара". Увогуле, лепшы спосаб абароны — апярэдзіць падзеі: калі потым напішуць дрэнна — будзе не так крыўдна, калі добра — нечакана прыемна. Тым не меш... Праект "Па той бок банальнасці" ўяўляе з сябе каля сотні не вельмі якасных фатаграфій Ігара Саўчанкі, якія суправаджаюць подпісы самога аўтара і якія аформлены Надзеяй Кароткінай. Ствараецца ўражанне, што подпісы часам значна цікавейшыя за фатаграфіі, хаця, паводле слоў аўтара, іх нельга разглядаць паасобку, таму што яны — адно цэлае. І праўда, як без тлумачэнняў зразумець, што на фота паказана "Свята, якое не ведае яшчэ, што яно памылілася, выбраўшы гэтую дарогу" ці "Усё тое ж свята, як заўсёды пазбягаючае прамога шляху ў аб'ектыў і трапляючае туды толькі, адбіваючыся ад навакольных прадметаў?" Дарэчы, аб прадметах. Ці з'яўляецца прадметам мастацтва "Пылінка, што пранікла ўнутр камеры і паспела-такі апынуцца на плёнцы якраз у той момант, калі адлятаючая птушка была ўжо ля самага краю кадра?" Адказ на гэтае пытанне, напэўна, ведае толькі аўтар, а можа, тая самая птушка. Але яна паляцела, прадаставіўшы гледачам самастойна шукаць адказ на гэта пытанне.

Як ставіцца да такіх з'яў, кожны вырашае для сябе сам. Адны вырашаць, што гэта — чарговая нагода эпаціраваць публіку, іншыя пастаўяцца да яе як да спробы стварыць свой уласны свет, які іншым можа здацца незразумелым і дзіўным. У такіх работах, як "Здымак, зроблены ім у адчаі ад немагчымасці спыніць пастаянна знікаючае імгненне" ці "Здымак, зроблены ім у здагадцы аб непатрэбнасці спыніць пастаянна знікаючае імгненне", чамусьці здаецца адлюстраваннем збянтэжанасці ў душы самога аўтара. А можа, гэта проста пакутлівая спроба гледача знайсці сэнс там, дзе яго няма, каб апраўдаць сваё з'яўленне на гэтым вернісажы. К канцу экспазіцыі, мяркуючы па ўсім, фантазія аўтара пачала збядняцца, і перадапошні здымак крыху нядбайна названы "Здымак, які несумненна нешта азначае". Як бы там ні было, выстава адбылася, знайшліся спонсары, што аплацілі яе правядзенне, гледачы, якія ўдастоілі яе сваёй увагай, і журналісты, якія напісалі пра яе. Значыць, усё гэта некаму патрэбна, нават калі выстава, як і адна з прадстаўленых на ёй фатаграфій, усяго толькі "Яшчэ адна няўдалая спроба спыніць пастаянна знікаючае імгненне".

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



## *У СЕРЫІ «СВЯТАЯНСКАЯ»*

Беластоцкае аддзяленне Саюза польскіх пісьменнікаў распачало паэтычную серыю "Святаянская", у якой выдае творы ў перакладзе на польскую мову. Кожная назва кнігі мае свой парадкавы нумар. У 1996 годзе выйшла чатыры кнігі, сярод іх — Яна Чыквіна і Галіны Тварановіч. Сёлета запланавана дванаццаць аўтараў. Рыхтуецца да друку кніга вершаў Алеся Разанава ў перакладзе Я. Чыквіна, якія ўжо змяшчаліся ў польскай перыёдыцы.

Беластоцкае аддзяленне Саюза польскіх пісьменнікаў мяркуе і надалей кожны год выдаваць адну-дзве кнігі паэтаў з Беларусі.





**У горадзе Крупкі Мінскай вобласці Таццяну Белую ведаюць вельмі многія. Чалавека з такой энергіяй не заўважыць немагчыма. У свае шэсцьдзесят гадоў яна паспявае і дом дагледзець, і дзецям памагчы, і рукадзеллем заняцца. Дзякуючы яе энтузіязму паўтара года назад у Крупках адкрыўся гісторыка-краязнаўчы музей, у якім сёння больш за тысячу экспанатаў. Усе яны сабраны Таццянай Якаўлеўнай, і на іх набыццё не затрачана ніводнай капейкі дзяржаўных грошай. Умее Таццяна Якаўлеўна ладзіць з людзьмі, умее пераканаць майстроў падарыць неабходную рэч ці дакумент у гарадскі музей.**

**Яна ўзначальвае рэгіянальнае аддзяленне Саюза майстроў народнай творчасці. Нямнога знойдзецца рукадзельніц, якія так па-майстэрску ўмеюць вышываць ручнікі ці абрусы, вяжуць ажурныя сурвэткі ці каўнерыкі. І столькі цудоўных работ зрабіла Таццяна Якаўлеўна, што іх хапіла на вялікую персанальную выставу, якая адкрылася ў раённым Доме культуры ў Крупках.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Таццяна БЕЛАЯ; ручная вышыўка — адна з яе работ.**

**Фота аўтара.**

# ТРЫЛОГІЯ АСЭНСАВАННЯ, або ВЯРТАННЕ СЭНСУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Адкуль жа ўзніклі такія думкі? Ці не перабольшванне гэта? Што ж такога выключнага зрабіў Алесь Наварыч, каб яму спявалі гэткія дыфірамбы?

Ды нічога асаблівага! Каб увайсці ў гісторыю (зразумела, што літаратуры), Вядзьмак Лысагорскі напісаў цэлую паэму — і не адну! Алесь Наварыч, — не маючы тое самае за мэту, — усяго тры радкі! — і то не свае:

**"Серёд песков египетской земли...**
**Над хвалями синеющего Нила**
**Вже кольки тысяч год стоит могила..."**

Іх — дастаткова! Паэму — можна было б і не пісаць! Пачытайце "Крыніцу" — і вы зразумееце, што я маю на ўвазе.

Але гэта, так бы мовіць, толькі паверхня аповяду, толькі яго воратка, на якую таксама звяртаюць увагу і па якой пазнаюць. Давайце прыгледзімся ўважлівей, што ж прапанаваў нам Алесь Наварыч у так званых "Дзённіках". Хіба гэта дзённікі той усім вядомай істоты, якая толькі скубе траву ды мычыць?! Дзіва што не! Хто паверыць, што карова (!) піша дзённікі?! Дзённікі піша чалавек. Хто ж ён? Хіба пра яго ідзе якая-небудзь гаворка ў тэксце апавядання? Зусім не! Але мы яго бачым і адчуваем. Хто ж ён? Гэты чалавек — не дзівіцеся! — сам аўтар. У "Дзённіках" — усё ягонае: ягоныя пошукі, ягоны боль, ягоныя пакуты. Але — надзвычай тонка, з высокай мерай культуры і густу, пераплецены з пошукамі і пакутамі створанага аўтарам літаратурнага героя — каровы Рабунькі.

Дзіўнае спалучэнне? Так, сапраўды дзіўнае. Але, напэўна, адзіна магчымае, каб мы з нязгаснай цікавасцю чыталі радкі гэтага незвычайнага твора. Сам па сабе чыста фармальны літаратурны прыём — нават самы неардынарны — і той прыядаецца, калі яго шмат. Але Наварыч карыстаецца ім вельмі асцярожна; і не таму, што чагось баіцца, а таму, што валодае і адпаведным густам, і разуменнем псіхалогіі чытача. І гэткае разумнае "незацыкліванне" на адным, хай і добра знойдзеным прыёме, увесь час трымае чытача ў напружанні: ён мусіць — далёка не адыходзячыся — на месцы (г. зн. пры чытанні) — аддзяліць "зерне" ад "смецця" (хаця і "смецце", і "зерне" тут аднолькава важкія). Калі прасцей, то ад яго патрабуецца вызначыць, дзе ў тэксце словы Рабунькі, а дзе — аўтара; дзе яго асабісты боль, а дзе перажыванні і боль літаратурнага героя, у рэальнасць якога чытач даўно паверыў. І яму, на мой погляд, гэта ўдаецца — інакш ён не чытаў бы твор. І тое, што ён зроблены на такім высокім мастацкім узроўні, вельмі радуе, бо надта ўжо надакучылі наіўна-"кудлатыя" пошукі самога сябе, якія нікуды не вядуць, бо спіраль гэтых пошукаў не адпавядае патрэбам душы, здольнай спасцігнуць і нешта большае, чым таптанне на адным месцы.

Ці маем жа мы права на падставе аднаго невялікага апавядання рабіць высновы, якія закранаюць не толькі даволі балючыя для некаторых аўтараў пытанні літарацкай іерархіі, але і "святая святых" — існасць літаратуры?

Напэўна, маем, бо на нашых вачах адбылося вяртанне сэнсу той з'яве, якая называецца літаратурным працэсам (і тут можна мець на ўвазе не толькі канкрэтнага пісьменніка ці той момант, калі ён стварае свой твор, але і літаратурны працэс у цэлым — як сродак фіксацыі адпаведных зменаў у свядомасці нацыі ці народа).

Ці апраўданы такі — нібыта легкаважны — падыход да праблемаў, якія патрабуюць да сябе, скажам так, больш сур'ёзных адносін?

Лермантаву ў свой час дастаткова было напісаць: "Погиб поэт, невольник чести...", каб імгненна зрабіцца асобай, якую ведала ўся Расія.

Наварычу аказалася дастаткова напісаць "Дзённікі Рабунькі", каб адразу рассунуць не толькі рамкі чытальнасці беларускай літаратуры, але і тыя межы (правільней, перашкоды), якія не дазвалялі ёй выйсці на сусветны ўзровень.

Карыстаючыся ўжытым рэдакцыяй азначэннем — трылогія, мы можам цяпер спакойна весці гаворку пра тое, як **трылогія асэнсавання** (маецца на ўвазе — свайго асабістага пісьменніцкага шляху, — а Наварыч ішоў да гэтага асэнсавання з поўнай адказнасцю і поўнай доляй самаахвярнасці — як чалавека, так і пісьменніка), як гэта трылогія зрабілася адначасова і **трылогіяй вяртання сэнсу** — той з'явай, якая завецца літаратурай.

Працэс выспявання таленту залежыць, як вядома, не толькі ад таго, што стваральніку дадзена Богам, але і ад тых умоў, у якіх ён жыве, часам не надта спрыяльных для творцы. Але сапраўднага майстра яны не абмяжоўваюць. Па той простай прычыне, што сцяжыні творчасці — неспасцігльныя... як і сцяжынкі Боскія...

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 202. Падпісана да друку 10.2.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.